УДК
ББК
Б

**Календа, С.**

**Б??** Акварыум / Сяргей Календа. – ??????: ***, 2020. – *** с.

**ISBN**

«Акварыум» завяршае трылогію, пачатую кнігай «Падарожжа на край ложка» і падхопленую «Часам панкі паміраюць».

Аповесць – складзеная з фрагментаў гісторыя каханняў і любові двух герояў, якія не зусім рэальна і кожны пасвойму глядзяць на сваё жыццё і на сваіх жанчын. І ў кожнага гучаць свая праўда і свая музыка, свае сюжэты/згадкі пра сваякоў і ненадзейнасць памяці, свае ўспаміны пра юнацтва, калі дрэвы былі больш зялёнымі, а пацалункі доўгімі.

Два героі павінны сустрэцца, каб скончыць падарожжа, для пачатку новага ва ўласным жыцці.

УДК
ББК

**ISBN**

В этой маленькой комнате всё
по-старому:
аквариум с рыбкою – всё убранство.
И рыбка плавает, глядя в сторону,
чтоб увеличить себе пространство.

С тех пор, как ты навсегда уехала,
похолодало, и чай не сладок.
Сделавшись мраморным, место около
в сумерках сходит с ума от складок.

Иосиф Бродский

**ЗМЕСТ**

## ЖАН І ЯН

***Жан***

Пражыць жыццё за суткі, з падзеннямі, узлётамі, страхамі, сумневамі, сутыкненнем са смерцю, каханнем, сяброўствам, спробаю збегчы і адначасова знайсці выйсце, нажлукціцца, адпрацаваць дзень, плакаць, выбачацца і весці доўгія дыялогі, спалохацца за сваё жыццё, давесці сябе да суіцыду – і па вяртанні абнуліцца пад наступную раніцу.

А потым Жан сядзіць на кухні, раніца, п’е каву, спаў усяго пяць гадзін і яшчэ не да канца асэнсоўвае, што толькі вярнуўся не з сутачнай камандзіроўкі, што нарадзіўся зноў гэтай ноччу, і вось яно, яго новае, іншае жыццё. І гэтае асэнсаванне напаўняе ўвесь мінулы дзень такой неймавернай колькасцю эмоцый, што ён ператвараецца ў паралельную рэальнасць, і той дзень, дзе кожная гадзіна мела зусім іншы сэнс, да канца не будзе спасцігнуты, бо гэта немагчыма, можна толькі павярхоўна ўспрымаць гэты дзень як дзень, які існаваў паралельна з другім Быццём.

Дзень – матрыца прасторы, копія яго перайшла ў новую рэальнасць, і гэтая рэальнасць цяпер з’яўляецца галоўнай адносна мінулай.

Дэталізаваць гадзіны, Жану абавязкова трэба ўсё сабраць у лагічны ланцуг, каб была магчымасць сачыць за новым жыццём.

І тады жыццёператворыцца ў штосьці вартае, каб пражыць ізноў часы кахання, хвалявання і рамантыкі, без якіх новае жыццё не пачнецца, бо калі няма страху згубіць, няма адрэналіну рызыкнуць, то можна ператварыцца ў мэблю, забыць пра тое, што можа існаваць такая колькасць эмоцый, якая з цяжкасцю змесціцца ў адзін дзень, ператвараючы яго ў асобную Планету па-за часам і прасторай.

Менавіта такія часы пачынаюць свой адлік, калі а чацьвёртай ночы машыну Жана выкідвае на заінелы лёдзісты аўтабан і ён намагаецца ўтрымаць аўтамабіль, не зляцець у кювет, па ўзбочынах якога на аварыйках стаяць фуры, а некаторыя напаўляжаць у снезе, а Жан спрабуе выжыць і выратаваць яе жыццё.

Так здарылася з Жанам той ноччу, перад тым як ён і яна даехалі да горада праз восем доўгіх гадзін замест трох… Яны танчылі на лёдзе, потым ехалі пад зімовым дажджом, курылі на ўзбочынах, пілі каву, плакалі і смяяліся самотнаму лесу, палям і крумкачам.

Малады чалавек сядзеў у ванным пакоі, змерзлы, бо вада даўно астыла, і не разумеў сам сябе. Учора было іншае жыццё, цяпер яно змянілася, і Жан зараз ведае толькі адно: яму патрэбна гэтая жанчына. Пакуль невядома, што трэба будзе зрабіць дзеля гэтага, але гэтае жаданне валодаць ёю, жыць разам з ёй і проста разам пастарэць стала ягонай віруснай думкай, якая знішчыла ўсе астатнія.

***Ян***

Гэта здарылася раптоўна. Альбо не, не раптоўна, проста адным вечарам Ян знайшоў у спальным пакоі мёртвага чалавека.

Назваць тое раптоўнасцю нельга, Ян ведаў, што гэта павінна было здарыцца. Калі менавіта, ён не меў дакладнага адказу, але адчуваў, аднекуль здалёк, глыбокім падсвядомым: штосьці падобнае павінна адбыцца.

Усё пачалося тры гады таму, калі ён заўважыў, што кіруе машынай так, нібыта хоча кагосьці абагнаць – святло, паветра, дажджавыя кроплі, гэты джып, які і так едзе больш за сто пяцьдзясят кіламетраў у гадзіну, птушак таксама трэба абагнаць. Ян пачаў ездзіць так, быццам праз хвіліну яго тут і цяпер ужо не будзе, ён рызыкаваў сваім жыццём, бо хацеў абагнаць свае прыгаломшаныя думкі, скрушныя разважанні пра тое, што не ўсё атрымліваецца з ягоным жыццём, не паводле плану, складзенага ім у шаснаццаць гадоў. Паводле плану, які праз дзесяць год канчаткова захрас, пачаўшы буксаваць у святыя -наццатыя гады, калі пра яго не было часу падумаць і зрабіць нейкія высновы.

Такая своеасаблівая псіхатэрапія. Сесці ў машыну, завесці матор, паглядзець ва ўсе люстэркі і паехаць на надрыве, газуючы на першай перадачы, адразу пераключаючы на трэцюю, не даючы машыне ніякай магчымасці перавесці дух, а толькі ціснуць на педаль газу, пакуль тая не ўпрэцца, але ўсё роўна працягваць ціснуць, тапіць, што ёсць моцы.

Такім чынам ён праездзіў усё лета, абганяючы самога сябе, не даючы магчымасці зрабіць нават невялічкі перапынак.

Ян спасылаўся на тое, што гэта ўсё праз страту блізкага чалавека… А як можа быць іначай, калі яму жыццёва не хапала гэтай хуткасці, рэзкасці і адрэналіну за стырном. Яго пазбавілі правоў кіроўцы – і гэта нічога не змяніла, толькі цяглiцы ўздоўж пазванкоў нацягваліся, як гітарныя струны, падчас паездак праз кардоны ДАІ.

З часам адчуванне блізкасці смерці прытупілася, звыклымі сталі выкіды адрэналіну ў час язды, і Ян пачаў ныраць у рэкі… Ён не ўмеў плаваць, але яго гэта не спыняла. Ён тапіў сваё цела, пакуль не кранаўся ілістага дна, потым нагамі адштурхоўвася, імкнуў на паверхню – і паўтараў усё наноў. Сябры кпілі з яго, што ён мазахіст, так рызыкаваць і здзеквацца са свайго цела, і казалі яму, што ён яшчэ і садыст, бо прымушае іх назіраць усё гэта і хвалявацца.

Не пытацца пра глыбіню і тэмпературу вады, з разбегу ў ваду, а там ужо калі вынырнеш, то можна і па-сабачы да берага даплыць, альбо галавою аб пясчанае дно – і канец усяму.

Што яшчэ магчыма зрабіць, каб адчуць сваё месца? Каб адчуць жыццё, каб вырашыць умомант усе пытанні і праблемы? Ян пачаў губляць памяць у алкаголі, тое спачатку надавала надзеі на светлую будучыню, але потым адчуванне прасветленасці пачало знікаць у цяжкіх галаўных болях і патанаць у брыдкім паху перагару. Яна быццам скрадаў сусвет, і хлопец не мог з гэтым нічога зрабіць.

Ян лічыў, што калі ты не жывеш на надрыве, з галаўным болем, то жыццё не будзе адчувацца. Не знойдзецца нічога вартага таго, каб існаваць.

Галаўны боль патрэбны, бо зазіраць у сваю бездань, пераглядацца з ёй варта таго, каб аднойчы, разважаючы пра сваё мінулае жыццё, можна было сказаць, што ты ўсё на свеце пражыў, ніводнага разу не спалохаўся, але калі палохаўся, гэта быў не ты, а хтосьці іншы.

Згубіць можна ўсё на свеце, але ты нікуды не схаваеш той унутраны сусвет, які патрабуе ад цябе твае пазванковыя струны не адпусціць-расслабіць, але дасканала наладзіць, настроіць іх на меладычны, крыху вар’яцкі, але ўласны, непаўторны гук.

І вось ён, вечар, белае сухое віно, без нічога, бо не трэба, ежы няма месца ў той бездані, якая зазірае цяпер у твае вочы. Ян зайшоў у спальны пакой, каб зняць з сябе ўсю вопратку і потым, ужо аголеным, наліць віна, халоднага, такога, каб адчуць увесь боль холаду на зубной эмалі.

А ў пакоі сядзіць на ускрайку касметычнага століка перад люстэракам жанчына.

Ян дакладна не можа ўзгадаць яе, жанчына абсалютна незнаёмая.

– Што, дарагі мой? Цяпер будзем такім чынам разам жыць, як два нябожчыкі?

Ян вагаўся, ён не хацеў пачынаць размову, але штосьці падштурхнула яго адказаць.

– Можа, хочаш кавы? Цукру дадаць?

– Адну лыжку.

***Жан***

Немагчыма патлумачыць. Проза спрашчае ўсе тыя пачуцці, якія ахапілі Жана. Стаць паэтам маладому чалавеку не наканавана, бо, як мудра заўважыла маці ў далёкім дзяцінстве, яе сыну на вуха наступіў мядзведзік, але спатыкнуўся – і прыстукнуў дар паэзіі, таму Жану так складана даецца адчуць гармонію музыкі і вершаў.

Жану з дзяцінства лёсам наканавана быць чулым, эмацыйным, шчырым, і ён адчайна пазбягаў гэтых пачуццяў, бо, як у школе кажуць пацаны, ты альбоануча – і табе хана, альбо ты адзін з нас, моцных і непераможных. Але Жану часам хацелася быць слабым, і ён не ведаў, як свае адчуванні правільна апісаць і патлумачыць, і ў выніку вырашыў гэтыя тонкія рэчывы папросту пакінуць у сваіх пакойчыках

у галаве, а звонку з’явіўся Жан, які можа тлумачыць свае жаданні толькі проста, толькі прозай, але прыгожай, і яго такога прыняло грамадства, якое не цікавілі дэталі, што да чаго.

Мама заўжды казала: «Жан, ты так спяшаешся жыць, што, калі табе будзе дваццаць, ты адчуеш сябе старым і пачнеш, быццам шалёны саракалетні мужчына, шукаць матывацыю, апраўданні бязглуздых учынкаў і любошчаў, а потым раптоўна ажэнішся, а потым гэтак жа нечакана здарыцца і развод, і – дай Божа – яшчэ адзін шлюб і развод… Ты, можа, нават пасля гэтага паспакайнееш, але не таму, што ты зразумееў каханне, а з тае прычыны, што не паспееў упарадкаваць ва ўнутраных справах назапашаны жыццёвы вопыт і да пары проста пераступаў зваленыя ў кучу мяхі гэтага досведу; аднойчы адчыніш кладоўку, а дакладней, перад тваім носам адчыніць кладоўку тая самая жанчына, якую ты ўсё жыццё чакаў, – і ўсе гэтыя мяхі адначасова на цябе паваляцца… і калі ў цябе атрымаецца выкараскацца ацалелым ды ўцямным, то штосьці ты здолееш усвядоміць. А так, козлік мой, скачы, пакуль скачацца. Шкада, што маці ніколі не слухаеш!»

Жан адказваў звычайна, так, каб не ўкручвацца ў гэтыя бясконцыя мамчыны маналогі: «Я цябе слухаю, усё разумею!» Ён ніколі не разумеў, як маці можа яму распавядаць пра розныя рэчы, пра ягонае жыццё так псіхалагічна дакладна, хаця сама нідзе не была, ніколі ні пра што не чула і не ведала, толькі глядзела свае серыялы і чытала розную лухту вечарамі, кшталту раманаў пра каханне. Аднойчы яна нават запыталася ў яго, што такое поза 69, калі яны сядзелі на кухні ўвечары і па тэлевізары ішоў нейкі пахабны серыял.

Не браць пад увагу меркаванне дарослых, а найперш бацькоў, Жан пачаў яшчэ са школы, але не наўмысна, так склалася, што залішне рана ён сам стаў дарослым.

Дарослым… ха… даааравлым… канешне… вельмі ён цяпер дарослы… Калі паглядзець звонку, ён быццам вярнуўся ў свае васямнаццаць, быццам пятнаццаць год сцерліся з яго твару і барада нават не дадае яму гадоў, як раней. Жан упершыню сутыкнуўся з асэнсаваннем таго, што ён нічога не ведаў пра жыццё і пра сябе, і маці мела рацыю: у яго за плячыма два скасаваныя шлюбы і зашмат жыццёвага вопыту, але ўсё гэта не мае значэння, усё гэта было з ім, але ў іншай рэальнасці.

Вось ён… вось побач яна… ён і яна… на ложку… агаленыя… у абсалютна іншай і чужой краіне… Цяпер гэта іх горад, іх краіна, іх месца.

Жан разумее, што не можа быць настолькі прыўкрасна і шчасліва ў рэальным жыцці. Тут нейкая падстава, з усім гэтым неверагодным сексам, каханнем, пачуццямі такімі моцнымі, што становіцца страшна за сябе і сваё існаванне ў свеце. Усё нерэальна, так не можа быць, бо такога ніколі не было, а Жан ужо вельмі дарослы, такі дарослы, што сам ведае, дзе, што, як і чаму… яму яшчэ дзяцей гадаваць – вундэркіндамі б зрабіў.

Але цяпер нічога не вядома, нічога не вядома зусім… Суцэльнае Нішто, якое набывае статус звышкахання і можа наўпрост забіць цябе тут і цяпер.

Ложак недалёка ад сярэднявечнага цэнтра горада ў цэнтры Эўропы, якога за тры дні яны яшчэ не бачылі, яе белыя тонкія рукі… пальцы… шыя… гэтыя кучаравыя доўгія валасы… пах кахання, пах поту і спермы, пах ванілі і шакаладнага тытуню… яго галава на яе жываце, яна закрывае твар яму далонямі, ён без сіл, але адчувае, што яшчэ пяць хвілін – і ён гатовы працягнуць.

Жан гатовы да ўсяго на свеце, бо час мінае, а за гэтае жыццё ён не паспеў галоўнага – пражыць… пражыць гэты час так, каб аддана, шчыра і бескантрольна. Не трымаючы рукі на пульсацыі хвілін.

***Ян***

– Ведаеш што? – казаў Ян сваёй галоўнай жанчыне ў жыцці. – Няма нічога ў свеце важнага, акрамя таго, як ты пражываеш кожнае імгненне. Нічога насамрэч няма істотнага, акрамя прыгажосці, якая сапраўды не мае вагі і не мае дакладных тэрмінаў. Мы кожны дзень сутыкаемся з прыгажосцю, але звычайна нават не глядзім на яе, мы адварочваемся, мы не хочам звяртаць на яе ўвагі, кожнае імгненне час дае нам магчымасць назіраць яе… але звычайна адбываецца ўсё такім чынам: побытавае, інтэрнэт, тэлевізар, «трэба памыць падлогу», трэба вынесці ўсе свае дываны, кілімы і канапы вонкі і добранька так выбіць ад пылу, стрэсці-змесці валасы і шматкі скуры, але насамрэч нам трэба не выбіваць свае рэчы, нам трэба выкінуць усё гэта і пакінуць для сябе прастору, за якою магчыма будзе разглядзець прыгажосць…

Усе кажуць: самае галоўнае ў жыцці – гэта сям'я, усе кажуць: самае галоўнае ў жыцці – гэта твае бацькі, усе кажуць: самае галоўнае ў жыцці – дзеці… Шмат кажуць, але папраўдзе хто гэтаму да канца дае веры? Людзі, якія ахінаюць сябе толькі што купленымі пледамі і мараць пра тое, каб ім хапіла на распродажы ў «чорную пятніцу» чаргова-новага наперад апгрэйджанага планшэта?! Што гэта можа азначаць, як не смерць падчас жыцця, і калі нават Бог зазірае ў акно скрозь зіхоткія промні, марозныя, светлыя, сцюдзёныя промні? Мы ўсе аднолькава не жадаем бачыць

прыгажосць, не жадаем яе адчуваць, бо калі яе пачнеш адшукваць, цяжка будзе застацца на сваім месцы, цяжка ўвогуле будзе ўключыць тэлевізар альбо рушыць у краму з прычыны акцыі «каўбаса доктарская за 5.99».

Я не ведаю, дарагая, што можа быць самым галоўным у жыцці, акрамя прыгажосці, бо яна можа цябе ўзрушваць і кранаць у такіх дзіўных рэчах, як зазіранне ў вочы, альбо калі ты разганяешся на машыне да неверагоднай хуткасці… Ты не самагубца, ты даследчык свайго ўнутранага свету, ты прагнеш азарэння, калі твае вочы шырока заплюшчаныя, адчуваеш, што вось яшчэ літаральна пару секунд – і ты можаш стаць такім бязважкім, такім яскравым і неверагодна прыгожым, увабраць гэты момант настолькі танютка, што ён ператворыцца ў абсалют, гэты момант можа мець больш сэнсу, чым увесь пражыты табою дагэтуль час.

І людзям не хапае гэтага настолькі, што жыццё яны стараюцца перавесці ў катэгарыяльныя межы спакою і бавіць яго так, каб не палохацца і не адшукваць прыгажосці, бо так лягчэй, бо так трэба. А чаму трэба? Хто сказаў? Так кажуць… вось менавіта так кажуць усе, хто кажа… бо так павінна быць.

Але насамрэч павінна быць інакш, і я разумею, маё каханне, што вось увесь гэты свет абцяжараны неістотнымі, непатрэбнымі і пустымі рэчамі, бо лягчэй заўсёды насмажыць бульбы, і адкаркаваць пляшку гарэлкі, і ўключыць сабе «Елкі 25», і на гэтым супакоіцца, і вось тады падасца, што і каштоўнасць нейкую набыў.

Толькі каштоўнасць складаецца не з аліўе а дванаццатай ночы, але з людзей, якіх мы сустракаем, і з таго, што мы здольныя вынесці з усяго гэтага ў сваім жыцці, бо людзі з намі не назаўжды, і зразумець, адчуць, асэнсаваць. Калі мы не здольныя будзем убачыць прыгажосць, мы не зможам

вырасці, не зможам ператварыцца ў планету, не зможам выгадаваць у сваім сэрцы сусвет, мы застанемся тымі, хто звыкла апранае шапку перад выхадам на мароз і кожны дзень запланавана мые шкарпэткі… Ад кожнага, хто цябе прыручае, гэта дзея вымагае адказнасці, і каб яшчэ магчымасць была памерці ў адзін дзень…

Неяк так казаў Ян ёй, калі аднойчы зразумеў, што ў ягоным жыцці занадта шмат смерці, а калі смерць так настойліва грукаецца, так цябе ўзрушвае, гэта можа азначаць толькі, што вы перасталі быць планетай і спадарожнікам адно для аднаго, вы абрынуліся ўва ўсе гэтыя жыццёвыя анучы і такім чынам можаце ніколі за сваё кароткае жыццё нават і не даляцець да траціны сваіх млараў і планаў, не зможаце нічога, акрамя як планаваць, марыць і запампоўваць чарговы серыял на вечар альбо, хаваючы адно ад аднаго тэчкі з порна, марыць і пяшчотна лашчыць адно самога сябе.

Ян казаў пра тое, што ў сэнсе жыцця ёсць толькі адзіны сэнс, і ты яго абіраеш, абапіраючыся альбо на льготны квіток, альбо на філасофію Ніцшэ, альбо на маленькі тамок вершаў Арцюра Рэмбо.

Ян казаў ёй усё гэта, але яна маўчала, толькі глядзела паверх ягонай галавы, і не было зразумела, прымае яна яго словы, разумее ці не… Але пасля пэўнай паўзы яна прамовіла, што варта было б сёння ўвечары паклікаць сяброў напіцца.

Яну было і балюча, і крыўдна, і шкада ўсяго, і крыху прыгожа ў душы. Ён разумеў, што яны адно для аднаго памерлі, але адчайна шукаў сэнсу для іх дваіх, але яны падняліся з ложка, селі за стол, кава была без цукру, моцная кава, як Ян любіў піць ва ўніверсітэцкія часы: тры лыжкі кавы на паўкубка вады і адзін кавалачак горкай шакаладкі, каб спачатку стала блага, але потым адпусціла, і паскоранае

сэрцабіццё нагадала табе, што жыццё – тут і цяпер, яно нікуды не знікала.

– Мне здаецца, што ты сам сабе хлусіш, – кажа жанчына Яну, – мы з табою былі адно аднаму патрэбнымі на той вельмі цяжкі перыяд жыцця, калі сусвет вырашыў нас аб'яднаць дзеля змагання, барацьбы, унутранага росту, зразумей жа гэта, дарагі мой. Але зараз мы – абодва – раптам сутыкнуліся самі з сабою абсалютна разгубленымі, нібы расшкамутанымі на кавалкі.

Гэты дыялог мог бы працягвацца доўгі час, але насамрэч тое быў не дыялог, тое была пустэча, якой Ян прамаўляў словы, гэта была ягоная бездань, ягоны мёртвы чалавек, які нават не дакрануўся кавы, а толькі падняўся з-за стала і рушыў назад у спальны пакой.

***Жан***

– Я думаю, Жан, што ўсё тваё жыццё – гэта пошук жанчын, якія здольныя на тое, каб дастаць твой мозг, запакаваць яго ў вакуумную ўпакоўку ды закінуць у нетры свайго заплечніка, а ў тваю чарапную каробачку заліць па самыя краі канфіцюр. Як так жывеш? Скажы! Як такое ўвогуле магчыма?

– Не разумею, пра што ты.

– Слухай, я цябе ведаю з далёкага дзяцінства… пералічыць табе ўсе твае няўдалыя каханні ці, можа, распавесці пра тое, як ты бегаў за адной старшакласніцай?

– Ну, бегаў, але ж усё атрымалася!

– Ты жывеш як істэрычка, як грэбаная неўраўнаважаная шлёндра!

– Дзякуй табе. Засталося толькі, як Марла, пачаць наведваць ананімныя клубы падтрымкі, не істотна чаго і каго, галоўнае цяпер захаваць антураж. Дай цыгарэту.

– Паглядзі, як у цябе трасуцца рукі. Ты ўвогуле ясі, спіш?

– Я нармальна. Дзякуй.

Насамрэч Жан адчуваў сябе нармальна. Магчыма, упершыню. Можа быць, нават хораша. Не, ён сапраўды адчуваў сябе шчаслівым. Быццам вырашыў праблему, якая шмат год атручвала яму жыццё.

Жан з сябрам сядзелі ў яго старой «Маздзе» на ўскрайку габрэйскага парку, што за вуліцай Караля. Гэта з юнацтва было іх звычайным месцам, куды яны прыходзілі з гітарамі, півам і цыгарэтамі, а ўжо дзяўчаты самі падцягваліся.

Цяпер яны сядзелі ў машыне толькі з цыгарэтамі і кавай з аўтазапраўкі.

– Я ведаю толькі тое, што я цяпер нічога не ведаю, але адчуваю сябе нашмат лепш, чым паўгода таму. Разумееш, можа быць, я дажыў да гэтага часу, сталеючы, набіраючыся вопыту, каб мець розум і моц быць менавіта з ёй!

– Я разумею цябе, у кожнага свой час развіцця, але ж ты ці не самы першы з нас у школе ўжо жыў дарослым жыццём. Слухай, ды ты пражыў ужо за траіх, а ніяк не можаш знайсці сваё месца і супакоіцца! Як такое можа быць?

– Я не ведаю, не ведаю, шчыра, можа быць, таму, што я залішне рана ўсё ў жыцці пачынаў, але толькі цяпер гатовы жыць!

– Ты дурань.

– Дзякуй.

***Ян***

Сказаць, што Мінск – гэта сапраўды сталіца краіны, немагчыма. Мінск – гэта вялікая вёска, выгадаваная вяскоўцамі і заселеная імі. Адшукаць менчукоў у трэцім пакаленні

цяжка… адшукаць старыя раёны, якія б памяталі гісторыю развіцця горада, – немагчыма. Гэты горад штодзень руйнуецца і адбудоўваецца наноў. Гэты горад не мае памяці, бо яе сціраюць усе гэтыя выкшталцоныя і тоўстыя чыноўнікі… кідаюць за краты гісторыкаў і нават чуць пра тое, што горад гэты быў да іх нараджэння, адчайна не жадаюць.

Мінск – гэта абсалютная бескантрольнасць раёнаў… Ён месціць у сабе свой адмысловы прамысловы Манчэстэр, мае свой Манхэтэн у выглядзе аднаго хмарачоса… У Мінску нават ёсць штосьці падобнае да аднапавярховай Амерыкі і нават крыху нямецкіх Бельведэраў… У горадзе ёсць свая Расія… свая Літва… ёсць процьма ўсяго на свеце, але няма Менску. Няма самога горада з адметнымі месцамі для хіпстараў, бо Зыбіцкая сапраўды не для хіпстэраў, гэта месца для самотных прыгажунь, для самотных мужчын, для сустрэч аднакласнікаў… для жлукцення віна – і што яшчэ можна ўзяць ад культуры пітва.

Калісьці горад меў сваё сапраўднае аблічча, чырвоную дахоўку… Кажуць, фашыстоўцы ўсё знішчылі падчас Другой сусветнай. Але архіўныя фота пацвярджаюць іншае: горад шмат захаваў пасля вайны, асабліва стары горад, верхні і ніжні. Невядома як, але і вядома адначасова. Бо калі на цэнтральнай плошчы ставяць велізарны помнік сталіну, зразумела, куды маглі знікнуць дахоўка, і вузкія вулачкі, і тая ж брукаванка.

Але што гэта мы. Не будзем плакаць па тым, што мы страцілі пазаўчора. Паглядзім на горад вачыма Яна, якому літаральна ўчора споўнілася дваццаць тры гады. Ён абсалютна знішчаны маральна, вельмі незадаволены сваім існаваннем, жыццёвым статусам, да ўсяго дадаецца пахмелле. Цяжкое пахмелле, якое рэдка бывае ў такім узросце.

Ян незвычайны хаця б таму, што так лічыць ён, і таму, што ён абраны героем для гэтай кнігі.

Ян, у сваю чаргу, адчувае сваю незвычайнасць з прычыны сваёй маладосці, а таксама з нагоды сну, які ён бачыў у падлеткавым узросце, калі да яго прыходзіў Бог і распавядаў пра яго будучую карыснасць на гэтай нікому не патрэбнай планеце.

Малады чалавек глядзіць на гэты горад акурат з кухні першага паверха кватэры па вуліцы З., і ён бачыць абсалютна раздзяўбаную дарогу каля пад’езда, гэтыя аблупленыя і збітыя пасля зімы бардзюры, разводы солі і нейхайных паркоўшчыкаў уласных машын. Бардзюры ашчаціліліся, трава яшчэ шэрая, снег сышоў, лаўка каля пад’езда ўтрымлівае трох мужчын размытага ўзросту, яны адзін аднаму штосьці спрабуюць даказаць у спрэчцы – на пальцах і мімікай, перамяжаючы словы і жэсты пляўкамі на асфальт. Адзін з іх лузгае семачкі, і шалупінне шэра-белымі сняжынкамі ляціць долу… Другі мужчына адказны за своечасовае напаўненне пластыковак пахучай вадкасцю «Алычовы водар». Трэці шмат курыць, пальцы на яго левай руцэ задубянелыя і жоўтыя, як і правы край вуснаў, куды ён штосекундна прыкладае цыгарэту без фільтра.

Ян назірае за імі, седзячы каля вакна, тры гадзіны дня, сёння ў яго дзень нараджэння, але гэта не мае ніякага значэння. Чаму менавіта тут ён нарадзіўся?!

Ён спустошаны, і варта было б адказаць хоць на адну смс на тэлефоне альбо пазваніць сябру і нажлукціцца, але не, нічога не хочацца, бо гэты стан нежадання ў яго цягнецца больш за паўгода… бо ўсё пачалося і скончылася ў нейкім неразумелым для яго пункце адліку, калі ў ягоным жыцці з’явілася спачатку абсалютна звар’яцелая дзяўчына, якая кожны вечар займалася толькі трыма справамі:

шмат жэрла, потым паўгадзіны ванітавала, а потым, трымаючы яго за пеніс, мастурбавала, пакуль не кончыць, і ўсё пачыналася ізноў… Што можа сказаць Ян у сваё апраўданне? Варта было б хаця б аднойчы даць ёй у твар, накрычаць на яе, але ён занадта мяккі, таму гэтае вар'яцтва жыло ў яго чатыры месяцы, пакуль аднойчы не сабрала свае рэчы і не збегла – дзеля таго, каб праз два дні вярнуцца і апынуцца перад зачыненымі назаўжды дзвярыма. Вось тады Ян на яе крычаў, вінаваціў ва ўсіх збачэнствах і здратаваным псіхічным здароўі. Яна сышла не проста так, яна яшчэ на працягу месяца пісала лісты і паведамленні, і то пагражала самагубствам, то прасіла прабачэння, а то скардзілася яму на яго занадта бабскі характар… Ян не адказваў і нават слова не вымавіў, калі яна аднойчы яго падпільнавала са старэйшым братам, які добра яго адмалаціў па нырках.

Потым з'явілася гоў-гоў танцорка… салодкае лайно на палачцы, якое ласкава муркатала, але не падпускала ніжэй лініі бікіні… так цягнулася даволі доўгі час. Ян хадзіў у клуб глядзець на яе танцы, піць «Куба Лібрэ», пакуль не скончацца грошы, і тады вяртацца дадому, каб потым пад раніцу ўбачыцца з ёй: ён гатуе каву перад працай, яна выпівае аспірын перад сном… неяк так. Гэтае дзяўчо нічога не планавала, яна, добра ўладкаваўшыся, дажыла да тэрміну, калі трэба было з'язджаць на працу ў начным клубе пры турэцкім гатэлі, ён пра гэта даведаўся, калі раніцай нікога не знайшоў у кватэры, яна толькі даслала мэйл, каб ён рэчы, якія выпадкова маглі застацца, выкінуў на сметніцу, альбо спаліў, альбо што-заўгодна-зрабіў-бы.

Тры гадзіны дня, Ян сядзіць на кухні, ён заехаў да мамы… Мама заўжды рада, калі ён прыязджае.

– Што табе згатаваць? Дарагі мой?

– Нічога, мама, нічога не хачу…

– Я нават не ведаю, што табе падараваць на твой дзень нараджэння! Ты нічога не хочаш!

– Мам, мне і так добра… я проста хачу пасядзець тут. І ўсё.

– Лепей бы ты сустрэўся з сябрам і выпіў. А то вечна пакутуеш ад гэтых жанчын.

– Мама, не ў жанчынах справа! Ты што, хочаш, каб я піў?!

– Я хачу толькі, каб ты быў шчаслівы!

Ян падняўся з кухоннай канапы, пасунуў мамінага старога сабачку і пайшоў апранацца. Зараз ён выйдзе на вуліцу, зробіць дзесяць крокаў да ўніверсама, набудзе там дзве пляшкі гарэлкі, лімон, тры пачкі цыгарэт і пойдзе на Караля піць. А што яшчэ рабіць?

Студэнт з яго ніякі, праца яму не падабаецца… ён спрабуе пісаць вершы – але гэта ўвогуле страшэннае лайно… яму трэба плаціць за нанятую кватэру, але яму зусім не хочацца працаваць, каб за яе плаціць, і наогул не хочацца вяртацца туды, не хочацца адчуваць знаёмых пахаў, не хочацца нічога такога падпускаць блізка да сябе. Няхай будзе дыстанцыя.

І вось ён крочыць спачатку ў краму, і навакольны горад абсалютна не ўзмацняе жадання жыць. Панэльныя шматпавярховікі, брудна-шэрыя пасля зімы, з аблупленай тынкоўкай, і нават калі гэтыя дамы пафарбуюць, яны ўсё роўна не будуць выглядаць лепш. Гэта як бадзяцца ў наладаваным аднолькавымі дамамі лесе. Вакол аркі, праходы і патрэсканы асфальт, і гэтыя вуліцы, гэты раён аніяк не маглі б яго абняць – гэта немагчыма, бо вуліцы шырокія, адлегласці паміж дамамі дастатковыя, каб ты проста, як мячык, адскокваў ад сценкі да сценкі, ад пад’езда да пад’езда… быццам у чэраве кіта. Гэты горад не мае

вузкіх аднапавярховых вулачак, здольных на цуд цёплых абдымкаў.

Горад быццам ад пачатку быў створаны нарадзіць цябе і навучыць любіць іншыя краіны і гарады, каб ты ўдосталь насумаваўся па чырвонай дахоўцы – і з’ехаў.

***Жан***

Калі ўзяць і апусціць усе гэтыя чортавы ўмоўнасці, забыцца на ўсё, да чаго нас змушае грамадства, нават заплюшчыць вочы на этыкет і сямейныя клятвы… тое, што было ў той вечар на рацэ Свіслач, можна назваць сапраўднай паэзіяй, магіяй пачуццяў, шчырым жыццём.

Жан разам з ёй ішлі спачатку ўздоўж правага ўзбярэжжа, пілі з бутэлькі сухое шампанскае… яна курыла, ён – не. Жан ведаў, што яны тут вось ідуць уздоўж рэчкі, і гэтага абсалютна дастаткова, каб быць цалкам шчаслівым і адчуваць паўнату жыцця. Ён так ішоў побач з ёй і разумеў, што нават за руку яе ўзяць – страшна. Яна не ягоная і ён не належыць ёй… яны вельмі блізкія адно аднаму. Духоўна… іх аб’ядноўвае нават аднолькавасць характараў, але не афіцыйны статус, які паводле дакументаў вызначае адказнасць.

Вось так дайсці да Нямігі, потом падняцца на мост, стрываць колькі хвілін гэты спароджаны аўтамабілямі – іх гукамі і пахамі – гвалт, ізноў спусціцца пад мост, бліжэй да ракі і троляў, якія пасяліліся тут, пад падмуркамі Верхняга горада Троіцкай з часоў Касцюшкі…

Дайсці да «Панарамы»… прайсці праз ужо даўно неіснуючую «салодкую фабрыку». Але для каго яна не існуе? Калі Жан прамінаў гэтае месца, ён – як і яна –

адразу ўзгадаў тут агароджу з дзевяностых і змешаныя кампаніі гопнікаў, панкаў, яшчэ каго з агульнага раёна… бо калі ніхто не біўся, можна было ўвесь вечар правесці ў агульнай вялікай кампаніі, нават міліцыя не чапала, а так, здалёк назіралі, шпацыруючы міма.

Вось яны дайшлі да парку на супрацьлеглым баку ракі ад «начной кніжнай выставы».

– Шампанскае выпіта, трэба ў прыбіральню? Тут ёсць платная.

– Ну, я пайшла ў прыбіральню.

– Я таксама.

– Так, колькі там яна каштуе?

– Дзетка, я табе набуду квіток на ўваход у прыбіральню!

– Ахранець, мне яшчэ ніколі не набывалі квіток у туалет!

– Ну, усё калі-небудзь здараецца ўпершыню, – прамаўляе Жан і цалуе яе ў вусны, хутка, апантана, моцна.

***Ян***

Яны абодва былі з абсалютна розных планет… У той час, калі Ян чарговы раз быў дастаўлены ў найбліжэйшую бальніцу ў непрытомным стане, з празрыстымі шклянымі вачыма, цытуючы Арцюра Рэмбо, з залітай крывёю рукою і спрэс прапахлы саладжавым сіропам ад кашлю.

Яна ў той дзень нават не выйшла позна ўвечары гуляць на вуліцу.

Калі Ян ужо добра ведаў, куды можна хадзіць у свае пятнаццаць на раёне, а дзе лепей нават і не высоўвацца, то Яна гуляла са сваім сабачкам абсалютна паўсюль, бо гэта і гадзіны бяспечныя, і яна нікому нічога

не павінна, і спрачацца наконт музычных густаў не было з кім, і думаць, што ў яе запытаюцца, хто яна і адкуль, было смешна.

Немагчыма патлумачыць, што іх паяднала, калі ім было крыху за дваццаць, Ян тады акурат падарожнічаў з мастакамі ў суседні абласны горад на альтэрнатыўны варыянт мастацка-музычнага біенале, які праходзіў як помста афіцыйнаму з’езду творцаў, куды не толькі яго не паклікалі, але і ўсіх, каго ён ведаў. Падарожжа з мастакаміператварылася ў бойкі, крыўды, налітыя алкаголем вочы…

Яна ехала туды акурат на афіцыйную частку разам з сябрамі, але трапіла не ў той аўтобус, а можа быць, трапіла якраз туды, куды трэба было… бо адразу ўбачыла Яна і ўсё зразумела: пачварны, перакошаны твар, брудны, злы, знішчаны знутры ўшчэнт, гэты чалавек быў падобны да пародыі, няўдалай спробы змяшаць няшчаснага паэта і графамана.

– Нічога не можа быць дакладна асэнсаваным і спраектаваным у жыцці так, як хочацца менавіта табе, дарагі мой Ян. І як бы што ні адбывалася ў жыцці, як бы ты яго ні планаваў, заўжды давядзецца штосьці пераўладкоўваць, за штосьці расплачвацца, нават камусьці помсціць. І ты ўзяў і адпомсціў за ўсю сваю скрушную нявыкрутку першай дзяўчыне, якую ўбачыў у сваім асяроддзі. Проста так узяў і зруйнаваў прыгожае, нават не падумаўшы ні пра што іншае, акрамя сябе і сваіх унутраных дэманаў.

– Я тады быў іншым.

– Ты такі ж самы, як і раней, і тое, што мы адно для аднаго памерлі – у першую чаргу твая віна. І не трэба мне распавядаць пра прыгажосць і святасць.

***Жан***

Спальны раён, класіка закрытых квадратных двароў, невялікія дзіцячыя пляцоўкі, штосьці падобнае да паркінга, але няўдалага і нікому не патрэбнага, бо колькасць машын на колькасць кватэр ніколі не разлічваецца, таму проста можна адвесці дзіцячую пляцоўку пад месца для машын і дзве лаўкі для падлеткаў дзеля вечаровых сустрэч з семкамі, півам і бруднымі ратамі, якія па начах вывяргаюць разам з п’яным смуродам брыдкаслоўе і рык сексуальнага жадання.

Звычайна яны могуць гадзінамі ляжаць на матрацы, летам, калі вокны наросхрыст, з ноўтбука спявае альбо Трэвіс, альбо Том Ёрк, гараць свечкі з «Ікеі», прасціны вільготныя, запэцканыя. Жыццё спыненае, дыхаць цяжка, хочацца курыць.

Пасля кожнага разу ён адлiпае ад матраца, устае з падлогі і накіроўваецца на кухню, дзе ў лядоўні чакае бутэлька халоднага сухога белага віна.

Ён налівае сабе келіх, скручвае з дацкага тытуню сабе і ёй папіросы, вяртаецца ў пакой, чакае, пакуль яна вернецца пасля душа, потым яны разам на балконе з асалодай кураць і п’юць віно.

Цяпер гэта добрая традыцыя – пасля кожнага аргазма курыць і выпіваць келіх белага сухога, гэта як кожным разам адзначаць маленькі дзень нараджэння, свята сексу. Жан хацеў бы, каб ягоным апошнім у жыцці жаданнем быў секс з келіхам віна і папіроса з добрым тытунём.

– Я сустрэў цябе ў патрэбны час, бо ў мяне хоць і шмат было драматычнага ў адносінах, галоўнае, што ў мяне няма дзетак, і я хачу іх толькі ад цябе.

Яна нічога не сказала, толькі пацягнулася, як котка, пазяхнула і запусціла сваю тонкую руку яму ў валасы, пачала казытаць вуха.

***Ян***

– Я ненавіджу сябе. Я ненавіджу сваё цела і я ненавіджу сваю душу, я цалкам непрыемны, непрыгожы і абсалютна мяккацелы чалавек, якога нават цяжка назваць мужчынам. Я столькі зрабіў кепскага ў жыцці, што разумею: варта было спыніцца яшчэ у васямнаццаць, але не, мяне заўсёды гоніць уперад, жыццё і мой імпэт не даюць мне суцішыцца і зрабіць замест аднаго крока наперад два назад. Я шмат зрабіў памылак.

– Ян, ты што такое кажаш, ну вось што ты такое кажаш? Што кажаш такое?! Я сама раней думала, што такога, як ты, не тое што не пакахаю, але нават побач з ім стаяць у грамадскім транспарце не буду. А цяпер мы ў адным ложку.

– Дзякуй, ты так сказала, што мне лягчэй не стала. Мне падаецца, што я нарадзіўся Дарыянам Грэем, толькі ніяк не магу знайсці сваю карціну, дзе гэты партрэт страшнага чалавека намаляваны д’ябальскай рукой!

– Ты перабольшваеш, як звычайна.

– А ты, як звычайна, пра ўсё на свеце ведаеш лепш за мяне!

Яна заплакала, заплакала таму, што ён яе больш не жадае, ніколі не жадаў, усё ў іх адбывалася нейкім пакамечаным чынам, быццам ён яе не адчуваў альбо не быў здольны распаліць яе жаданне. У ноўтбуку сумна цягнуў сваю песню Давендра Банхарт, але рамантычнасці тое не дадавала. Свечкі даўно згарэлі, не пакінуўшы цяпла…

Заўжды неяк не так, і не ў такіх позах, і недастаткова прэлюдыі.

– Як усё павінна было пачацца, каб доўжыцца правільна?

– Я не ведаю.

– Я таксама. Мне замінае жыць ўсё на свеце… Галава… Думкі, жаданні і мары, нейкае халоднае чаканне. Замінае жыць і кахаць галава. Дурная, упартая галава.

– Можа, ёсць штосьці глыбей? Нейкая дзіцячая траўма?

– Я думаю, мы ўсе траўмаваныя, і гэта лагічна, справа ў тым, наколькі добра атрымліваецца жыць з гэтай траўмай. Магчыма, я чагосьці не прыняў, калі жыў у складаныя часы, калі ўсё было перакулена. Наркаманы, фарцоўшчыкі, алкагалізм, панкі і скіны былі галоўнымі і выскоквалі з цемры, як чэрці.

– Можа, нам з табой трэба было больш размаўляць, а можа, наадварот, моўчкі адно аднаго гвалціць, да непрытомнасці, але што ўжо цяпер, час мінуў, засталіся толькі скаргі і жах згубіць нават рэшткі непатрэбнага ні табе, ні мне.

– Я думаю, што нам з табой няма чаго губляць, мы пачалі дыялог, і гэта ўжо вялікі крок наперад. Да ўсяго, мы адно аднаго за доўгі час жыцця разам зрабілі больш мужнымі, моцнымі і рашучымі.

– Як бы я хацела, каб гэта ўсё прагучала, быццам верш, каб наша развітанне не было сумным.

– Дарагая, я не паэт.

– Шкада.

# ДЭЛЬФІН

Музыка Дэльфіна і гурта «Сплін» была галоўным акампанементам рамантычных сустрэч на вуліцах пад дажджом, з партвейнам, вільготнымі цыгарэтамі і плэерам з заблытанымі безнадзейна правадамі навушнікаў. Гэта песні маўклівых абдымкаў у цёмным пакоі, мары, агучаныя недзе на здымнай кватэры на ўскрайку мікрараёна, дзе неўзабаве хутка з'явіцца МКАД і ўжо проста так на ноч фортку не пакінеш, каб свежае паветра казытала патыліцу, халадзіла шыю, пасля будзе толькі смог, туман, праз які дагукацца сонца будзе амаль немагчыма.

І вось гэтыя сумныя рамантыкі, песняры сваёй эпохі пад гітары і электронныя біты даводзілі мне сваю жыццёвую філасофію, а я слухаў, шчыра ім верыў і кожны раз кахаў, нібы апошні ў жыцці, і не істотна, як даўно я пазнаёміўся з той ці іншай дзяўчынай. Была яна сустрэта мною ў кіно альбо ў альтэрнатыўным клубе сярод п'яных і прыбалдзелых падлеткаў. Я кахаў шчыра, бо калі ў цябе ёсць сумленне і ты здольны, як і мама, перажываць і дапамагаць, калі гэта трэба, то і каханне атрымліваецца такім жа чыстым і наіўным, як «Каханне» ў Дэльфіна альбо як ягоная любоў да сабакі ў песні «Імя». І гэта шмат што тлумачыць пра мяне як галоўнага героя гэтай кнігі, чые жанр альбо тэму шмат хто вызначыў бы з цяжкасцю.

У нашай краіне вельмі любяць, каб усё адпавядала якому-небудзь напрамку, і такім чынам не даюць жыць абсалютна простаму і наіўнаму мастацтву, прымушаючы шукаць межы, назвы і месцы, на якіх трэба стаяць, пра якія варта казаць, і абавязкова – суполкі, у якія трэба быць улучаным, каб нічога не згубіць. Так і з гэтай кнігай, для яе

павінна быць месца ў пэўным жанры, але яна такой формы, што проста так нікуды не змяшчаецца.

Я крыху адхіліўся ўбок, але магу павярнуць на бліжэйшым скрыжаванні, каб ізноў трапіць на неабходны апавядальны шлях.

– Ты кажаш, што будзеш мяне чакаць? – шчыра зазіраючы мне ў вочы, запытваецца яна. – Скажы мне, што ты мяне будзеш чакаць.

– Буду чакаць.

– Добра, – яна вельмі любіць, каб я ёй моцна чухаў патыліцу, гэта нагадвае мне дзяцінства, калі ў мяне быў свой дваровы сабака, кудлаты настолькі, што трэба было напружыцца, каб пачухаць яго, каб ён ад задавальнення высалапіў доўгі язык. – Вось і чакай тады. Я хутка – адна нага тут, другая там, – кажа яна мне і, прыбіраючы маю руку са сваёй кудлатай, прыгожай галавы, віхляючы цяжкімі грудзямі, перапаўзае праз маё цела на ложку і бяжыць у душ.

«Адна нага тут, другая там», – кажа яна мне, і я яе вяртання з «клубніцы ў Англіі» чакаў паўгода, а потым яна мне дасылае фотаздымкі, каб распавесці пра сваё брытанскае жыццё: тут і там прыгожыя замежныя далягляды, і потым раз, два, тры – тры фотаздымкі, яна даслала мне выпадкова – на іх яна і нейкі барадаты ён, вельмі падобны да мяне – вось яны ў ложку голыя – гэта называецца сэлфі, вось яна ў яго на каленках, а вось яны цалуюцца і, калі меркаваць паводле ракурса, ён гэта фатаграфуе. «Ой, даруй!» – піша яна мне далей, і ўсе фота знікаюць з перапіскі. Замежныя пейзажы і барадаты ён знікаюць з манітора, але не з маёй памяці. Я яе больш не чакаю і слухаць Дэльфіна не магу яшчэ два гады.

А потым прыехала яе сяброўка, сказала, што яна вельмі хоча са мною ўбачыцца, бо мінула ўжо два гады, яна

вярнулася, і яна сумуе. А я больш не сумую па ёй, кажу я так сам сабе, а сам адчуваю сэрцам, што сумую… сяброўка кажа, што мне абавязкова трэба з ёй сустрэцца. Сяброўка прыехала з белым сухім віном і добра падрыхтаванымі выбачэннямі, я ў сваю чаргу адкаркоўваю віно, уключаю грамчэй у рандомным парадку ўсе альбомы «Спліна», праз паўгадзіны трахаю ззаду сяброўку, мы стаім на кухні і трымаемся рукамі за стол, бутэлька віна, пустая, качаецца на ім, бакалы стукаюцца адзін аб адзін і звіняць. Я хацеў ёй адпомсціць, і я чакаў, як гэта зрабіць, і яе сяброўка мне дапамагла.

– Ведаеш, насамрэч ты быў у маім жыцці самы смачны мужчына, і я чакала, – яна глядзіць мне проста ў вочы, пасміхаецца, абдымаючы сваю грамадзянскую жонку. – Я з мужчынамі скончыла, адразу скончыла з усімі гэтымі жарсцямі, калі ты мяне перастаў чакаць, – кажа яна пранікнёна і яшчэ мацней прыціскае да сябе маладую, прыгожую дзяўчыну, якая на палову за яе меншая, такая мініяцюрная.

– У нас магло б атрымацца штосьці грандыёзнае, я тады жыў з табой месяц, быццам штохвіліны пад кайфам. Пісаў навуковыя рэфераты па Ніцшэ і Гайдэгеру, і мне нічога больш не трэба было, толькі разважаць з табой у ложку і займацца сексам, – кажу я ёй у кавярні ў Сан-Францыска.

– Дзіўна ўсё выйшла…

– Так, сапраўды. Калі б не фэйсбук, я б нават і не ведаў бы, што ты пераехала ў Штаты.

– Калі б не фб, я і не ведала б, што ў цябе ўжо ёсць дзеці і ты зараз тут, у Штатах.

## БРАТЫ ГАЛІВУД

***1***

Трое па-свойму цікавых і незвычайных мужчын, будзем зваць іх браты Галівуд.

Старэйшы ўжо больш за дзесяць год у міжнародным вышуку: забойства, гвалт, рэкет.

Сярэдні... самы яскравы, запамінальны і харызматычны, пра яго крыху пазней.

Малодшы адседзеў дзесяць год за збіццё, якое прывяло да смерці ахвяры праз два месяцы ў бальніцы. Ён сеў у дзевятнаццаць і выйшаў, калі яму споўнілася дваццаць дзевяць. Паводле судовай пастановы, яго дэпартавалі з краіны. Цяпер ён жыве ў Літве, пячэ хлеб…

Бацька братоў Галівуд раней «крышаваў» палову Мінска і акругу Ждановічаў, Заслаўя і Маладзечна. Сядзіць у турме з дзевяноста восьмага года, трапіў на пажыццёвае паводле крымінальных спраў, якія занялі пяць старонак падчас агалошвання прысуду.

Сярэдні брат – вялікі сябра майго дзядзькі Нагана, яны разам у двары корпаліся, разам пачалі красці, піць, разам біліся ў раённых бойках, разам сядзелі на наркотыках, разам раскумарваліся і разам маталі «срокі». Сярэдні брат – адналюб, ён закаханы ў жанчыну, з якой пазнаёміўся яшчэ ў бальніцы, калі дзядзьку майго прывезлі па «хуткай» з разварочанаю рукою, бо калі яны «падымалі хату», лом у дзвярным праёме сарваўся і ўлупіў акурат па руцэ дзядзьку, костка вялікага пальца глядзела вонкі.

Па выніку: дзве аперацыі і тры стрыжні ў руцэ – гіпс на два месяцы.

Сярэдні брат Галівуд убачыў Валю ў прыёмным пакоі. У іх завязаўся бурны раман.

Сярэдняга брата можна апісаць так: тонкія італьянскія вусы, прыемная знешнасць, прыгожыя вочы, атлетычнае цела, спіна ў прышчах і канцэнтраваны пах адэкалону. Калі я быў малы, дзядзька з братам і ягонай Валяй месяц жылі ў нас, хаваліся… я падышоў да мамы, якая ў ванным пакоі запіхвала ў старую савецкую машынку прасціны, спрэс у плямках, і зарагатаў, пачаў тыцкаць на плямкі: «Дзядзькаў сябра па начох сікаецца! Ха-ха-ха!» – але мама на мяне як крыкне, каб я правальваў адсюль…

Сярэдні брат шмат займаўся сексам, па тры-чатыры разы з Валяю за ноч і спускаў усё ў ложак. І гэтыя адвечна запэцканыя прасціны даводзілася кожны дзень паласкаць у пралцы, бо брат быў такі чысцёха, раніцай абавязкова ў ванным пакоі на падлогу кідаў спачатку прасціны, а потым і бруднае сподняе…

Каханне ў дзядзькавага сябра было вялікім, неабсяжным. Часам яны сварыліся, і нават моцна, даходзіла да таго, што ён неяк у машыне ўваткнуў у калена каханай Валі паляўнічы нож, каб яна не сышла ад яго… Альбо аднойчы збіў яе так, што яна трапіла ў рэанімацыю, каб яна таксама не сышла ад яго.

Потым ён кожны дзень яе наведваў з букетам чырвоных руж. Валя акрыяла, і яны ізноў пачалі жыць разам, мяняць кватэры, калоцца разам і разам лячыцца, спачатку ад наркотыкаў, потым ад гепатыту.

Сярэдні брат быў у рэспубліканскім вышуку за забойства аднаго буйнога прадпрымальніка… Шукалі яго ўжо тры гады, ён памяняў знешнасць, наўмысна патлусцеў, адпусціў валасы і бараду, пачаў насіць акуляры… Але гэта не дапамагло, аднойчы, калі ён наведаў

сябра, які святкаваў дзень нараджэння, хтосьці з гасцей яго здаў.

Пра гэта пісалі газеты. Бралі яго спецатрадам, у пяціпавярховіку ў раёне вуліцы Караля ў Мінску. Калі вынеслі ўваходныя дзверы, той сядзеў на кухні і, вядома, не чакаў такога павароту падзей, але паспеў застрэліць двух амапаўцаў і трох моцна пакалечыць першым, што трапілася пад руку, – відэльцам, цэліў у твар.

Сярэдняга брата Галівуд асудзілі на пажыццёвае. Валя горка плакала ў судзе.

– Ён ужо адседзеў дзесяць год і трапіў пад амністыю, яму засталося сядзець пятнаццаць. А я шэсць год таму выйшла за яго замуж, у турме. Чакаю яго… калі ён вызваліцца, яму будзе пяцьдзясят, – распавядае мне Валя, пакуль мы ідзем па вуліцы. Я прыехаў у Мінск па справах, сустрэў яе – ледзь пазнаў.

***2***

Малодшы з братоў Галівуд быў самым адэкватным хлопцам, мы з ім аднаго ўзросту, і калі ён упершыню з’явіўся ў нашай кватэры і назваўся Лёнькаю, яму было, як і мне, адзінаццаць.

Ці варта казаць, як шчыльна мы пасябравалі?! Абодва вісусы, на якіх поўсць курэла, лёталі па двары, біліся з мясцовымі, гралі ў «футбік» і «ножыкі», і самым вялікім святам для нас было, калі мая маці дазваляла Лёньку начыць у маім пакоі.

Уявіце: ноч, мы пад коўдрай, сядзім, сакочам і распавядаем адзін аднаму сакрэты: «Я магу пёрнуць, як аўтамат!»; «А я магу перданудь, як бомба»; «Я неяк з дзеўкаю цалаваўся»; «А я бачыў сапраўдныя грудзі»; «А я бачыў, як мае

бацькі трахаліся»; «А я магу харкаць саплямі, глядзі!»; «А я, а я...» Рагаталі паўночы ды так шалелі, што бацькам даводзілася нас разводзіць па розных пакоях.

Нашае яскравае сяброўства доўжылася два гады, пакуль Лёньку да нас прывозіла ягоная маці, якая сябравала з маёю, а потым, калі старэйшага брата Галівуд абвясцілі ў міжнародны вышук і родная маці сама ўжо не ведала, куды ён знік і дзе хаваецца, Лёньку адвезлі ў іншы горад, каб разарваць усе сувязі з былымі знаёмымі і сябрамі ды паспрабаваць жыць наноў, можа, тады старэйшы сын дашле якую вестку. Тым больш на новым месцы можна было прыдумаць новае жыццё, бо Малодшы брат застаўся адзіным з братоў, які мог вырасці добрым хлопцам, а пасля стацца і цудоўным мужчынам.

Я сумаваў па ім, але, як гэта часта бывае ў трынаццаць, хутка на яго забыўся.

Калі мне было дзевятнаццаць, я даведаўся, што Малодшы брат загрымеў у турму, і было гэта так: увечары ішоў ён са сваёй дзяўчынаю дамоў, дакладней праводзіў яе дадому, у незнаёмым раёне на іх напалі двое мужчын. Лёньку пачалі біць, дзяўчыну скруцілі, пагражалі гвалтам і смерцю. Лёнька без лішніх развяг раскрыў свой нож-матылёк і – аднаму ў пячонку, другому ў нагу.

Адзін мужчына, кульгаючы, збег, другі памёр у бальніцы. Лёньку прывезлі ў міліцыю, справа была ясная: абарона... Але калі Лёньку «прабілі» па базе даных, высветлілі, што бацька яго хрэн ведае колькі гадоў матае свой тэрмін, сярэдні брат сядзіць на пажыццёвым, а старэйшы ў міжнародным вышуку.

Лёньку вельмі моцна, і тут я не перабольшваю, вельмі моцна збілі – і той падпісаў прызнанне, што наўмысна забіў, што вінаваты і г. д.

Лёньку далі дзесяць год.

На зоне ён адразу трапіў пад апеку «злодзеяў у законе», і калі выйшаў на волю, яго немагчыма было пазнаць, бо гэта ўжо быў не Лёнька Галівуд, гэта быў монстар, драпежнік, д’ябал.

Лёньку не далі доўга пажыць у Беларусі, яго дэпартавалі, і я тады ўздыхнуў неяк нават з палёгкай, бо баяўся, што ён можа ўспомніць пра сяброўства ў дзяцінстве і завітаць да мяне ў госці.

***3***

Старэйшы з братоў Галівуд – галоўны ў сям’і вар’ят. У яго ніколі не было грошай, але заўсёды лядоўня трашчала ад ежы, пакоі былі завалены адзежай і апаратурай.

Старэйшы брат цягнуў дамоў усё, што ляжала кепска, і ўсё, што нават было прыбіта цвікамі… бывала і так, што людзі ставілі ў машынах супрацьугонны апарат, сігналізацыю і блакіратар стырна, ён здымаў з машыны ўсё гэта і дадаваў да калекцыі магнітолу.

У краму ён хадзіў у сваёй куртцы-«пілоце», у рукавы якой лёгка змяшчалася колькі палак каўбасы і каўбасны сыр, у кішэню – гарэлка.

Хлеб і масла ён набываў!

Па начох Старэйшы брат Галівуд «падымаў» шапікі ды кватэры і заўсёды працаваў адзін.

Старэйшы брат быў шчыра закаханы ў сваю калекцыю адмычак, розных ключоў, кавалкаў гітарных струн, металічных лінеек і процьму іншага, што было ў ягоным чорным дыпламаце. Я ніколі яго не бачыў сярод жанчын, толькі сярод накрадзенага.

Ён адзіны ў сям'і, хто ніводнага разу не трапляў у турму, і раптам яго быццам падмянілі, ён са звычайнага «дамушніка», «фортачніка» і кішэннага злодзея ператварыўся адразу ў маньяка. Ён пачаў насіць акуляры, вялікія, прафесарскія, у тоўстай аправе, адрасціў сабе вусы а-ля васьмідзясятыя, згвалціў, паводле следства, пецярых жанчын, забіў аднаго мужчыну, знік у РФ – і больш яго ніколі ніхто нідзе не бачыў. А я памятаў, як да знікнення Старэйшы брат Галівуд казаў майму дзядзьку, што яго пераследуюць нават не мянты, але нейкая патаемная арганізацыя, ён ім патрэбны, ён ім вінны шмат чаго... Гэты іх ціхі дыялог пад траўкай позняй ноччу я добра памятаю, мне было ўсё чутна з прыбіральні, дзе я затрымаўся, каб праз вентыляцыю падыхаць дымам ад самакрутак.

## «ПЛЭЙСІБА»

Кожны чалавек сам для сябе гучыць.

У першую чаргу гучыць сам для сябе, а потым ужо для астатніх.

Кожны раз музыка розная.

Кожны раз музыка павінна быць рознай, але здараюцца і такія акалічнасці, калі ўнутры чалавека можа захраснуць нейкі матыў, звычайна дурны, няякасны, кшталту тупой рэкламнай песенькі пра містара Пропера альбо прыпева з шэдэўра папсовага гурта «увазі меня скарэй і цэлуй меня віздзе, васемнаццаць мне ужэ».

Калі яна сышла, сказаўшы, што ўвечары мы сустрэнемся ў тым самым дворыку на заснежанай лаўцы, дзе і пазнаёміліся ў агульнай кампаніі юнакоў, якім не хапала грошай на кафэ, але была дробязь на бутэльку на пецярых... Калі яна раніцай сышла, я сядзеў на балконе, захутаны ў плед, курыў «Sobranie».

Унутры, недзе ў сярэдзіне страўніка гучала песня «Плэйсіба», якую гурт калісьці спеў на канцэрце разам з Дэвідам Боўі: «Without you, I’m nothing…»

Гэты прыпеў быў на паўторы цэлы дзень, гэтыя словы, ноты і рытм ператварыліся ў адзіны крыватök… без цябе я нішто…

Як шмат гэта можа значыць, як па-садамазахісцку гэта гучыць: без цябе – я – Нішто.

Як па-філасофску гэта гучыць, калі на нішто паглядзець з вялікай літары Нішто – і адразу ўзгадаць Ніцшэ, Гайдэгера, Камю…

Мне здаецца, я закахаўся ў гэты стан: быць без кагосьці абсалютным Нішто, нікім, нічым, ператварыцца ў ёмістасць

малекул, якія пульсуюць у рытме песні «Плэйсіба», і проста атрымліваюць ад гэтага задавальненне, і чакаюць яе.

Увечары мы сустрэліся каля гэтай лаўкі… Мы потым кожны вечар пачалі сустракацца каля яе, якая нас выпадкова пазнаёміла, бо тусовачная сяброўка прыйшла са сваёй сяброўкай дзяцінства, якой не было куды дзецца да адпраўлення цягніка на наступны дзень.

На цягнік яна ледзь паспела…

Увогуле гэтае месца, якое нас пазнаёміла, дарыла летнімі вечарамі начны паўзмрок, падобны да цёплай коўдры, пад якой мы адно аднаго лашчылі і займаліся сексам. За намі назіралі, я дакладна ведаў аднаго ці то брамніка, ці то вартаўніка мясцовага дзіцячага садка, што хаваўся за адным і тым жа дрэвам.

Я не ведаю чаму, але дадому нас ніколі не цягнула, нам падабалася быць аточанымі горадам, паркам, дамамі, абапірацца альбо сядзець на той жа лаўцы, абдымацца, цалавацца, запускаць рукі ў сподняе.

Мы нават займаліся сексам у ліфтах, на дахах дамоў, і адзін раз у мяне атрымалася кончыць у трамваі, калі мы былі прыціснутыя шчыльна адно да аднаго, і так проста я пасунуў убок яе стрынгі, і, стоячы як алавянныя салдацікі, мы ехалі і, паводле стуку колаў аб шпалы, рухаліся. Было лета… спякота і жарсць гадзіны пік.

Мы зусім перасталі бываць дома, пра маю здымную кватэру мы ўзгадвалі, толькі калі трэба было пераночыць.

Яна мне казала, што ні з кім ніколі б на такія авантуры, як са мной, не пагадзілася… Я ёй казаў тое самае адносна яе, і мы добра жылі разам, яна – такая высокая і прыгожая, і я – такі невысокі, але паводле яе слоў – утульны.

– Без цябе я нішто, дарагі мой, але па-іншаму ў мяне не атрымаецца, бацька аплаціў мне гэты ўніверсітэт.

– Бл…дзь, гэта ж Варшава.

– Ну і што. Што табе замінае да мяне прыехаць праз пару месяцаў?

– Праца.

– Ой, слухай, ты там новую знойдзеш.

– Я не ведаю, мне трэба скончыць усе справы тут.

– Слухай, ты літаральна ўчора яшчэ не меў ніякіх спраў, акрамя як заваліць мяне ў парку ў някошаную траву!

– Проста мне складана прыняць той факт, што ты з'язджаеш, і так раптоўна.

– Для цябе раптоўна, я ж здала іспыты дыстанцыйна…

– Ай. Ну, блін.

– Сам ай.

Я да яе не прыехаў, мы перапісваліся доўга і шмат, я друкаваў на машынцы ёй лісты пра каханне, яна слала мне карцінкі, намаляваныя то алоўкам, то фарбамі… мы адно аднаму кляліся ў каханні да канца свету, не тое што да канца нашых жыццяў.

А потым мінуў час, і я пачаў спаць з жанчынамі толькі дома і толькі ў ложку, бо даследаваць навакольнае асяроддзе больш няма з кім.

Спадзяюся, яна робіць са сваімі мужчынамі такім жа чынам, як і я з жанчынамі.

# СЁСТРЫ НАКАЦІКА

***1***

Лета, цёпла, чарга ў «Хутка-смачна», я стаю разам з паэтам, перакладчыкам і мастаком.

Мае сабутэльнікі дакладна ведаюць, хто яны, толькі я яшчэ не вызначыўся ў жыцці.

Маё першае лета ў Мінску, звычайна я з'язджаў дадому, а тут і праца з'явілася, і з кватэры ніхто не пагнаў.

Дванаццаць гадзін.

Перад намі чарга каля пяці чалавек, усе мы пад лёгкім алкагольным ачмурэннем, збіраемся набыць па златцы і па піве.

Паэт, які стаіць побач са мною, манерны і гідкі чалавек, з першага позірку нагадвае закамплексаванага гея з характэрнымі паводзінамі, галоўку звычайна набакір трымае, ручкамі мякенькімі ўзмахвае і галаском такім салодкім: «Ну шо-о-о-о...» Ён непрыемны і вельмі злосны.

Перакладчык – нармальны дзядзька, свой у дошку, толькі часам бывае як пачне штосьці распавядаць – ну быццам не з гэтай планеты чалавек.

Мастак п'е больш за ўсіх, самы адчайны алкаголік і маньяк. З ім калі сабраўся піць – будзь гатовы дакрочыць да самай мяжы жыцця.

Стаім, гутарым, тут раптам паэт, ну а як жа, наш цудоўны пафасны мужчына, тром дзяўчатам наперадзе кажа: «Ой, і што гэта вы тут, шала-а-авы-ы, стаіцё! Вочы разлупіце! Праходзьце хутчэй, не затрымлівайце чаргу!»

Неяк імгненна прастора застыла, паветра знікла, я разумею, што гэты невыносны паэта ізноў палез, каб кагосьці абразіць, ён, быццам паводле Фройда, калі вып'е –

адразу шукае дзяўчыну, каб зняважыць яе, альбо якога графамана, каб сказаць, што той лайно.

Мы ўжо збіраемся сыходзіць з чаргі, давядзецца забыцца на златкі і піва!

Мастак хоча сказаць штосьці дзяўчатам, каб тыя не звярталі ўвагі, выбачыцца, але позна: дзяўчаты наблізіліся да паэта, і адна правым хукам яму ў твар, прафесійна так, і левай яго ў падбароддзе, пакуль ён не паспеў павалiцца на ходнік.

Другая дзяўчына трапляе ў грудную клетку туфлікам на шпільцы...

Трэцяя хапае паэта за валасы і прыціскае яго правую шчаку да асфальту...

Дзяўчаты крычаць, мацюкаюцца і патрабуюць сатысфакцыі, а паэт не здольны ўжо і слова вымавіць.

Усё адбываецца вокамгненна, я заўважаю, што нос у паэта звернуты набок.

Я бегаю вакол дзяўчат і спрабую іх супакоіць, адштурхоўваю іх ад паэта…

Перакладчык у гэты час выскоквае на дарогу і кідаецца пад бліжэйшую машыну, тая па тармазах. Перакладчык паспявае толькі адчыніць дзверы, як ля яго апынаецца адна з дзяўчат дзвюма скокамі – і чапляецца за ягоныя заплечнік і кашулю... кашуля рвецца па швох, у заплечніку рвецца засцёжка – і палова рэчаў вывальваецца на дарогу, але перакладчык паспявае заскочыць у салон – і машына з’язджае.

Я азіраюся, мастака нідзе не відаць, а дзяўчаты ўжо стаміліся і дазволілі паэту адпаўзці на прыстойную адлегласць, адкуль той выклікаў па мабільным ці то «хуткую», ці то міліцыю, ці то таксі, незразумела.

І тут я заўважыў, што застаўся сам-насам з трыма д’ябаліцамі!

Я ўсміхаюся і прапаную ў якасці выбачэння набыць усім піва і златак. Я разумею, што біцца з імі мне не свеціць, я дык дакладна не збіраюся!

Тут да «Хутка-смачна» падыходзяць трое хлопцаў, сябрукі дзяўчат, і на грошы мяне раскручваюць як мае быць.

Ноч.

Мы сядзім на лаўцы ў суседнім парку, гутарым, мяне проста так не збіраюцца адпускаць.

Дзяўчаты, якія завуць сябе сёстры Накаціка, у дробязях прыгадваюць свае подзвігі, а я рады, што жывы і цэлы, і лічу хвіліны, калі змагу адсюль зваліць... На тэлефон мне шматкроць звоніць мастак, я не адказваю, бо крыўдна, што ён мяне кінуў, і да ўсяго мне вельмі хочацца да раніцы застацца жывым, а там пачнуць хадзіць тралейбусы, людзі паедуць на працу, я неяк знікну з кампаніі.

Мастак пачаў слаць эсэмэскі кшталту: «Я недалёка, у суседнім двары, што чуваць?»

«Вось і сядзі ты ў сваім двары, ссыкун!»

***2***

Кароткія гісторыі жыцця трох сясцёр Накаціка.

Я ўмею лёгка ўваходзіць у давер, і нягледзячы на тое, што мяне выставілі на бабкі, я пачаў па-свойску гутарыць з гэтымі сёстрамі, і яны спачатку ўпарціліся, а потым, калі адрэналін ачах, усе семкі яны дажавалі і дапілі піва, я дастаў з заплечніка бутэльку нуль сем гарэлкі, якую насіў з сабой увесь вечар і планаваў яе расціснуць адразу, як мы набудзем у «Хутка-смачна» па златцы і «запівон». Я запомніў іх гісторыі ў агульных рысах, без падрабязнасцей, мне было прыемна, што яны ўвогуле пачалі расказваць пра здарэнні са свайго жыцця, гэта

азначала, што раніцай я буду жывы і, можа быць, нават без збіцця траплю дадому, а не ў лякарню альбо малпоўню.

Ленка Накаціка – п’янь, адорва, прорва. Сямейны гвалт для яе быў натуральным з дзяцінства. Старэйшы брат пастаянна яе ціскаў, дзядзька, які прыязджаў кожныя выходныя піць з бацькам, ніколі не забываўся сказаць Ленцы, што кахае яе, і калі яна падрасце, забярэ яе ў Маскву жыць, бо там грошы… і дзядзька кожны раз, п’яны, прасіў яе пагладзіць яго сябрука. Ленка рана сышла з дому, пачала працаваць у сталоўцы, а потым дзядзьку пасадзілі, у той самай Маскве, дзе грошы ёсць.

Светка Накаціка – дачка аднаго савецкага зампаліта, якога люта ненавідзіць і які ад яе адмовіўся. Зампаліт проста сказаў яе маці, што яна няхай робіць што хоча, але яму яшчэ адзін на…быш не патрэбны, і сышоў. Мамка Светцы пра гэтага мудазвона кожны дзень узгадвае, і кожны раз выпівае, калі ўзгадвае, так яны абедзве і жывуць разам, трываючы адна адну. Светка хутка з’едзе ад мамкі, прынамсі так яна кажа.

Наташка Накаціка – самая прыгожая і ціхая, але самая баявая, брат старэйшы – панк, навучыў за сябе пастаяць, вось гэтымі шпількамі яна можа спакойна мне пракалоць вочы, зрабіць «як на Нямізе» – затаптаць нагамі, гэта яе кайф. Наташка калі б была хлопцам, то была б маньякам, кажа яна мне. Наташка пачала вадзіцца з сябрамі старэйшага брата, калі ёй толькі споўнілася адзінаццаць, і ўсё ў яе было крута, не тое што ў Ленкі, кажа яна, і Ленка адразу рэагуе на яе словы смакавітай лаянкай і звонкай поўхай. Наташка – агонь, полымя, д’ябаліца на шпільках, з такой побач проста страшна стаяць, не тое што гутарыць і выпіваць.

***3***

Раніца, я гляджу, як падымаецца сонца і горад пачынае жыць, а разам з ім і я. На лаўцы ўжо добра паддатыя сёстры Накаціка, хлопцаў сваіх яны адправілі кудысьці на...й, бо ім захацелася пагутарыць са мною, але хлопцы хацелі даць мне п...ды, і не атрымалася, бо Наташка і Ленка схавалі мяне за сваімі спінамі.

Я пачуў у свой адрас толькі пра тое, што я бабскі лізун, сука, підар і яшчэ штосьці неразборлівае, пакуль гэтыя хлопцы знікалі ў цемры начнога парка.

І вось яна, Раніца, я вельмі добра бачу і адчуваю: мне так проста не сысці, бо Светка да мяне прыціснулася так шчыльна, што я адчуваю не толькі яе грудзі, але і гарачае цела.

«Б...дзь, чаму я ўсё яшчэ не жаніўся? Спаў бы зараз дома з жонкай пад бокам!? Якога д'ябла мне трэба думаць, як выжыць у гэтым закарэлым ад пляўкоў, лайна і семак горадзе?»

«Калі я адпушчу Светку, яна можа даць мне п...ды. Калі я не адпушчу Светку – мне дасць п...ды яе хлопец, які вернецца па яе».

Я разважаю пра сваё філасофскае становішча, як раптам Наташка падымаецца з лаўкі і кажа, што настала яе чарга лапацца з ачкарыкам.

Напэўна, я ўсё-такі дапяў да іх душ, крануў уменнем слухаць і весці размову, і цяпер я ведаю зашмат, каб жыць, і гэтыя дзеўкі мяне папросту расцісნуць тут на месцы сваімі цыцкамі.

Сёстры Накаціка пачынаюць сварыцца паміж сабой, карыстаючыся такімі словамі, якія я ні да іх, ні пасля іх не чуў і не хацеў бы ніколі чуць. З аднаго боку, мне было вельмі прыемна, што жанчыны не могуць падзяліць мяне,

любімага. З другога боку, я баяўся, што калі адна пачне махацца сваімі шпількамі, а другая пусціць пустую бутэльку ў ход, ператварыўшы яе ў розачку, то трэцяя будзе пільнаваць мяне, і я не змагу хутка знікнуць.

І тут літаральна з-пад зямлі раздаецца голас:

– Сяржант Растаргуеў, прашу паказаць вашыя бутэлькі пад лаўкай.

І тут я пабег!

Б...дзь! Як я пабег!

Я бег ад баб, але я так хацеў, каб мяне затрымаў яшчэ які мент па дарозе, бо хто яго ведае, мо мне ў спіну ўжо дыхае Наташка на шпільках альбо адзін з пацаноў сясцёр Накаціка. Я бег шпарка, як ніколі яшчэ не бегаў – па-спрынтарску, на ўвесь аб'ём лёгкіх, на ўсю моц маладых і прыгожых ног, абутых у чорныя кеды «Adidas».

## ГАМА

Мы мяняліся шкарпэткамі і дыскамі, а яна любіла абаперціся аб мяне, быццам я яе персанальная тумбачка. Яна была высокая і з кароткай фрызурай, поўнымі грудзьмі з шырокімі смочкамі, а я – патлаты і з рэдкай барадой. Мы адно аднаго моцна кахалі, асабліва ў ложку, бо я заўжды ёй казаў, што менавіта ў ложку мы з ёй аднолькавага росту, але на публіцы мне падабаецца, што яна такая высокая. Я любіў, калі яна хадзіла на абцасах, тады яе рост перавышаў два метры, і яна выглядала недасяжнай нават для мяне самога.

Людзі любяць ацэньваць мужчыну па ягонай жанчыне, і мая жанчына рабіла з мяне касмічнага мужчыну.

Я быў як пакамечаны, ссохлы чарнасліў, а яна часта ляжала ў ложку, быццам спелая гронка вінаграду, якую так прыемна нетаропка есці, расціскаючы зубамі салодкі сок будучага віна.

З ёй я паспрабаваў усё, што мне так хацелася паспрабаваць. Нашай музыкай былі стогны кахання, і мы маглі падчас жарсці перастагнаць усё, што я толькі не ўключаў загадзя: лаўндж, даўнтэмпа, індзі-рок, эмбіент, інтэліджэнт электронік альбо класіку. Любы спявак станавіўся ў нашым свеце выпадковым сведкам бясконцага кахання і аргазму, калі недастаткова было проста граць і спяваць – абавязкова патрэбны былі дотыкі, рухі, пацалункі і гэта самае святло свечак, якое міргала і затухала ад подыхаў у паветры.

Так, я не перабольшваю, калі кажу, што паспрабаваў з ёй усё. Я рассмакаваў кожную вінаградзіну на гронцы. І магу смела і спакойна паміраць, але штосьці не пакінула мяне побач з ёй на ўсё жыццё. Аднойчы надышоў час, калі я адчуў, што мне трэба збірацца дадому.

Так, сапраўды, з’явілася пачуццё, што мне трэба вярнуцца дахаты, туды, дзе жыве мая мама.

Я сядзеў на кухні, глядзеў, як яна гатуе сняданак, апранутая ў фартух на голае цела. Вось можна так адразу падысці, зняць свае майткі і авалодаць ёю ззаду, пакуль яна гатуе амлет…

Уся гама пачуццяў, нават усе гэтыя бемолі, дыезы і бекары проста перасталі гучаць, і я падумаў, што менавіта ў такі час чалавек памірае, каб пачаць новае жыццё альбо растаць у паветры назаўжды.

«Раней, да таго як з’явіцца на свет, ты быў сонечным промнем», – казала мне ў дзяцінстве маці.

І я адчуў, што мне вось тут і цяпер, на гэтай кухні, побач з ёй, не хапае звычайнага сонечнага святла.

Былі гадзіны, калі нам здавалася, што музыка ўнутры нас стала непадобнай да ніводнага гуку на зямлі, што яшчэ не напісалі такую гаму, не стварылі яшчэ такія ноты, якія мы толькі што размясцілі на сваіх уласных лініях разлінаванага нотнага стана. Мы знаходзілі дадатковыя лінейкі, каб размясціць вось гэты дзіўны тонкі гук пацалунка, які толькі што амаль непрыкметна адгукнуўся ад кашэчай шыі і тонка павіс у паветры, працягваючы гучаць бясконца.

А потым гадзіны, дні і тыдні, якія страцілі сваю іншапланетную танальнасць і перавысілі па напружанасці нашую музычную гаму.

Я не ведаў, што рабіць. Вось яна тут, побач са мной, закінуўшы ногі на мяне такім чынам, што я магу лёгка дацягнуцца да яе пругкага трохкутніка, ляжыць, паглядае ў столь і распавядае мне пра планы на жыццё, што нам абавязкова трэба ў гэтым годзе трапіць у гарачую Іспанію, альбо ў смачную Італію, альбо – што было б самым фантастычным – кахацца на сонечным пляжы на самотнай выспе на Балі…

І я не ведаю, што рабіць, бо ў мяне тут і цяпер ёсць усё, але я злуюся, бо мне гэтага недастаткова, і я злуюся, бо зараз няма грошай, каб падарожнічаць летам па субтрапічных краінах, і вось я ўжо нервова ёй адказваю, каб яна суцішыла свае жаданні, і яна прыбірае з мяне свае прыгожыя доўгія ногі, і я адчуваю сябе пакрыўджаным, бо калі толькі што лашчыў іх, адчуваў, што яны мае ўласныя рэчы, мае асабістыя самыя прыгожыя ногі, і я хацеў кахацца з імі, але мінула хвіліна, якая ўвобмірг пазбавіла ўсяго адразу і непазбежна.

Па-мойму, мы проста з ёй занадта рана пачалі жыць разам, альбо не, не так, занадта рана мы з ёй сустрэліся. Здаецца, усё нам падабаецца, мы адпавядаем адно аднаму так, што нам усе навокал зайздросцяць, кажуць нам, што мы ідэальная пара, што мы выглядаем як напаўбагі разам, але атрымліваецца, што кожнаму з нас не хапала жыцця. Простага, але надзейнага для стварэння сям'і жыццёвага вопыту, калі можна марыць пра падарожжы і не злавацца на недахоп грошай, бо вопыт падказвае, што грошы знойдуцца, абы былі празрыстыя і ўпэўненыя планы.

Гучалі мы разам неверагодна, касмічна, але паўтарыць гэта было складана, бо прапісаць да канца ўсё як мае быць і стварыць з гэтага не «тэхнічную» гаму, але ўласнае адажыа ў нас не атрымлівалася, кожнаму патрэбны быў выхад вонкі, што мы і зрабілі, але мы ніколі не разыходзіліся, адно аднаго не кінулі. Мы проста акуратна выйшлі праз адчыненыя дзверы, абняліся цёпла і моцна і прамовілі «да пабачэння», пакідаючы адно аднаму шанец у любы момант вярнуць усё тое, што ў нас засталося за дзвярыма, каб узгадваць гукі нашых адносін без кропкі, але цягам паўзы – непрацяглай, але доўгай, як само жыццё.

# БАЦЬКА ГАРЭТНІК

Ён мог бы быць кім заўгодна, але яго жыццё стала цалкам падуладным ягонай маці, а потым і малодшай сястры. Так сталася, што калі ён нарадзіўся, то мамка яго не надта пільнавала і не магла даглядаць з прычыны свайго кахання да суседа, праз што ягоны бацька скончыў жыццё самагубствам, бо не мог такое трываць, спачатку шмат піў, а потым, калі прачнуўся ад таго, што яны на ложку трахаюцца, лежачы на ім і на саламяным мяху, павесіўся.

Маці яго адразу да прабабкі адправіла, туды, дзе хата, сяліба, лес і рачулка пад нагой. Прабабка ў першы ж дзень так і сказала пра яго: ён гарэтнік. Стаіць на земляной падлозе ў шорціках і плача, скавыча… ну абняць і плакаць разам з ім.

Так і выйшла па жыцці…

Пакуль бацьку не абдыме хоць хто-небудзь, напрыклад, мужык у паліто, з якім ён толькі што выпіў па сто гарэлкі, выпадкова, вось на гэтым грамадскім прыпынку. І адразу пасля абдымкаў такая любоў у ім прачынаецца! Адразу гэты чалавек для яго самы блізкі і самы родны, бліжэйшы за маці і жонку і, вядома, за гэтых н…бышаў, выпадковых дзяцей ад жонкі. Вось так і зачапіла за ім прабабка гэтую мянушку Гарэтнічак, бо хто, калі не ён, усім сваім алкагольным каханым, часта аднаразовым і невядомым, прызнаваўся ў любові і каханні, а потым жаліўся, скардзіўся, што не такога ад жыцця ён чакаў, не дзеля гэтага ён жыў!

Гэты чалавек прызнаваўся ў любові сваім сынам, Яну і Жану, і гатовы быў ашчасліваць іх бацькоўскай ласкай толькі тады, калі яму штосьці патрэбна было ад іх, але хлопцы даўно ўжо не давалі яму веры.

## НОТЫ

Напэўна, гэта самае складанае – пачуць у тваім каханым яго ўласныя ноты, не сваю, прапісаную паміж яго вачэй гаму, гатовую песню альбо мелодыю, якая так добра адпавядае вашым адносінам, а яго прыватныя гукі, датычныя толькі яго.

Самае складанае – гэта пачуць яе як ёсць, з усімі гэтымі дзіўнымі гукамі ў прыбіральні і ў ванным пакоі, з характэрным для яе прыцмокваннем падчас абеду, смяшкамі, калі яна гутарыць па тэлефоне...

Зразумець, пачуць і палюбіць гэта.

Калі гідка і брыдка, калі яна ў ложку можа пукнуць, гэта тады не пра каханне, бо я дакладна ведаю, што калі яна не будзе пукаць у сне альбо пасопваць, як маленькае мядзведзяня, я яе не змагу кахаць шчыра, на ўвесь аб'ём свайго сэрца.

Усё пачалося з доўгіх шпацыраў і размоў з кавай ды музыкай. Паўсюль, дзе мы былі, быў гук нашых словаў на фоне лаўнджа, эмбіента, альбо я выбіраў штосьці са свайго ўласнага спісу ў тэлефоне. «Акіян Эльзы» пасаваў нашаму агульнаму настрою, мы доўга маўчалі, калі чулі «Обійми», альбо я доўга маўчаў, калі чуў першыя гукі «Коко Шанель»... Мы ездзілі разам у машыне і скандавалі «Вставай, мила моя, вставай!», і ўяўлялі, як уся наша краіна ўстае і пачынае жыць па-новаму, як нам хочацца, каб не сядзець вечна ў складзе снд «з захадам сонца над багнаю», але каб нас было не спыніць, не стрымаць. Шмат усяго з намі было, але складвалася адчуванне, што ўвесь сусвет нашых адносін, гукаў, пахаў і смакаў створаны толькі дзеля нас, і нас гэта задавальняла, пакуль мы не выходзілі вонкі з кавярні,

машыны, кватэры, і тады ўсё мянялася, станавілася трывожна, вусцішна, здавалася, што гэты горад, гэтыя людзі і вось гэтыя вуліцы ніколі ўжо не будуць іншымі, але толькі такімі, як ёсць, постсавецкімі, сумнымі, жалезабетоннымі. Інтэрнэт і падарожжы стварылі нас іншымі, і калі прыбраць сусветную сетку інфармацыі, то тут, у гэтым горадзе ўсё застанецца як ёсць, нічога не можа зварухнуць з месца звычайнага беларуса, нічога, бо краіна тут для народа, які забыў, куды ён ішоў.

Нас з ёй аб'ядноўвае каханне, такое суцяшальнае, якое дапамагае жыць тут і не спрабаваць з'ехаць.

Ну, як не спрабаваць, проста мы адчайна не жадаем мяняць краіну адно толькі дзеля грошай. Тут, у гэтым горадзе для нас існуе наш свет, які мы дбайна песцім і якім шчыра гатовыя дзяліцца з тымі, каму ён патрэбны і цікавы, але з кожным новым днём я чую пра тое, што нам таксама варта было б паспрабаваць пажыць недзе ў Еўропе.

## ЯНЕБАБКА

Бабка ніколі нікога нават не любіла, а ўжо каб кахаць… Яна, як цяпер кажуць, была сацыяпатам і ніколі не мела адчуванняў, што хтосьці можа быць для яе блізкім чалавекам, а ўжо каб родным…. Так атрымалася…

Пра яе пакаленне любяць гаварыць, што яны ж і вайну бачылі, і «сталіна», і «бамы» будавалі, праўда, навошта – невядома. Дык вось гэтае іх пакаленне, якое перажыла ў дадатак яшчэ і крызісы сямідзясятых, васьмідзясятых, дзевяностых гадоў, пакаленне моцнае і нязвыклае да пачуццяў, счарсцвелае і суворае, як змерзлы хлеб, пакінуты ўзімку на падворку.

Але я сказаў бы, што пакаленне маёй бабкі – хутчэй, і ёсць той самы хлеб, што счарсцвеў да таго, як яго можна было б рассмакаваць, а так, пакрыты цвіллю, ён можа быць толькі пакрышаны галубам на плошчы каля Камароўскага рынку, інакш яго толькі ў біясмецце выкінуць застанецца, цяпер ужо мала хто трымае гаспадарку, каб скарміць хлеб свінням разам са зваранай кашай ці бульбай.

Мая бабка – першая па жыцці ў любым пытанні: упраўляцца з – калі ласка; навучыцца кіраваць танкам – ды не праблема; на скураной фабрыцы вырабляць кажухі – таксама магчыма; пакласці асфальт – і гэта не праблема, але вось абняць сваіх дзяцей – немагчымы ўчынак, які нельга здзейсніць нават пад страхам смерці.

Бабка нікога не любіла – ані першага мужа, якога давяла сваркамі да спынення сэрца, ані другога, у якога здарылася анеўрызма падчас таго, як яна крычыла на яго і зрывала шпалеры пазногцямі… Ані трэцяга мужа яна не любіла, давяла яго да атручвання ўласным першаком…

І чацвёртага мужа яна не любіла, кінуўшы яго паміраць, калі ў таго здарыўся інсульт у ложку з запаленай цыгарэтай. Пасля чацвёртага мужа яна атрымала згарэлы дом, калі вярнулася з начной змены на заводзе будматэрыялаў.

Пятага мужа бабка люта ненавідзела, і кожны дзень, як мантру, паўтарала, што, калі б не яе дурная галава, ніколі б не пабралася шлюбам з такім прыдуркам. Пяты муж сышоў ціха і нават без сварак, проста пайшоў купацца ў сцюдзёную Вілію.

Старэйшую дачку яна не любіла.

Сярэднюю дачку таксама.

Малодшую дачку яна проста не магла трываць…

Унукаў яна называла скацінкамі, якія толькі і могуць гадавацца пры сваіх скатабазах, матках сваіх…

Бабка любіла толькі аднаго чалавека ў жыцці – і ад гэтага пакутвала – свайго сына, якога яна ніколі не пакідала ў спакоі і які яе ніколі не пакідаў у добрым настроі і стане, заўжды кудысьці трапляў: бальніцы, турмы, малпоўні…

Чым больш бабка ўсіх навокал ненавідзела, тым больш любіла свайго сыночка і тым больш няшчасця і бядотаў прыносіў ёй гэты падшыванец.

Неяк бабка вымушана была прадаць сваё паліто, каб сабраць на перадачу сыну ў турму. Яна прыехала з вялікай торбай, наладаванай цыгарэтамі, гарбатай і баранкамі, прыехала ў старым мужавым швэдры, які быў ёй вялікі на тры памеры. Яна са швэдара паспрабавала зрабіць штосьці больш-менш культурнае: абвязалася рэменем, быццам так і трэба насіць гэту вопратку, але ў параўнанні з пасажырамі ў электрычцы, якія былі ўсе ў кажухах ужо, бо стаяла позняя восень, а хутка ўжо і зіма, бабка выглядала беднаю і старою, якой бы сядзець дома, а не цягацца па электрычках у швэдры.

Бабка давезла сыну перадачу. І на ўсё жыццё атрымала хранічны кашаль. Пачынае штосьці казаць – і адразу падкашлівае, так суха, нервова, быццам так і трэба гутарыць, праз кашаль.

Сын ёй напісаў толькі «дзякуй» за перадачу, але наступным радком ужо ішоў спіс, што яму трэба будзе перадаць у наступны раз.

І з кожным разам спіс павялічваўся, і бабка рабіла ўсё, каб прывезці паводле спісу сыну тое, што ён чакае.

Сын выходзіць з турмы – бабка загадзя выганяе з кватэры ўсіх астатніх: дачок, іх мужоў і іх дзяцей.

Менавіта «іх дзяцей», бо яна ніколі не лічыла іх унукамі, толькі крычала на іх: «Скатабазы, не скачыце па маёй канапе». І кожны раз, калі званіў хатні тэлефон, а яна не паспявала дабегчы да яго, яна крычыла ў агульным калідоры: «Калі мяне папросяць, не крычаць мне «бабка»! Толькі імя!» – вядома, усе хатнія крычалі ў слухаўку: «Бабка! Цябе!»

Бабка гучна апраўдвалася ў слухаўку, што гэта яе родныя дзеці так жартуюць, што гэта не ўнукі, і потым, пасля гутаркі, спешна збіралася на спатканне, паралельна апранаючыся і выкрыкваючы праклёны ўсім сваім дочкам: панараджалі, павыходзілі замуж, а ўсё ніяк не з’едуць!

Вось у чарговы раз, каб неяк перажыць вызваленне сына бабкі Янебабкі, усе раз’ехаліся хто куды: да сяброў, на лецішча, у інтэрнат.

Бабка сядзела перад акном самотная і з хваляваннем чакала свайго сына.

А той не прымусіў доўга сябе чакаць, намаляваўся, як чорцік каля пад’езда, і крычыць у вакно з расчыненай форткай:

– Бабуся! Тут дамафон новы стаіць, які код? – крычыць і ўсміхаецца, бо ён адзіны, каму можна называць сваю маці бабусяй, і за гэта нічога не будзе!

Бабка называе код ад дамафона, і на парозе з’яўляецца яе сын, і гэта падобна да самага сапраўднага кахання! І гэта самае шчырае пачуцце на Зямлі: маці і яе дзіця!

– А ты ведаеш, што ў дамафоне ёсць спецыяльны пароль, ён чырвонымі літарамі мне напісаў «орел».

– Сынку, гэта па-англійску «open», ты што, ізноў пад наркотыкамі?!

– Ты што, мамка! Дзядзька Наган ніколі не бывае пад нелегальнымі вешчэствамі!

За спінаю сына стаяць дзве бруднаватыя дзявулі, стары кораш сына, усе яны з пакетамі алкаголю з крамы, а ў сынавым заплечніку стаіліся мак і металічная скрынка са шматразовым шкляным шпрыцам – сёння будзе вечарынка!

## ІГІ ПОП

Калі я з ёй пазнаёміўся, яе голас гучаў, як сталёвая гітара гурта «The Stooges». Яна смяялася так надрыўна і незвычайна, што я проста і заслухаўся. Была яна з нейкім сваім уласным унутраным полымем, якое гарэла ў вачах, асабліва калі гутарка заходзіла пра кнігі. Спрачацца з ёй было немагчыма, любая пазіцыя руйнавалася, разбівалася на дробязі бессэнсоўных словазлучэнняў.

Калі мы апынуліся ў ложку, я зразумеў, што мне дасталася жанчына, для якой самае галоўнае ў жыцці – быць зверху. І я вырашыў, што гэта варта таго, каб адчуць смак падрабязней. Я сказаў ёй падчас секса, што хачу быць яе сабакам, які будзе яе лізаць паўсюль. Ёй гэта спадабалася, і яна мне дазволіла рабіць усё, што толькі можа прыйсці сабаку ў галаву падчас жарсцяў.

У нас былі дзіўныя, хваравітыя стасункі, яна насіла мае майткі і шкарпэткі, па вечарох магла з’есці самую вялікую піццу, запіўшы трыма літрамі піва, потым спакойна зайсці ў прыбіральню, званітаваць, змыць, пачысціць зубы ў ванным пакоі і вярнуцца да мяне ў ложак, глядзець серыял пад запаленымі свечкамі.

Здавалася б, звонку ўсё гарманічна і прыгожа, мы ямо, што нам падабаецца, п’ём піва, спрачаемся пра кнігі, якія чытаем, глядзім серыял пра кульгавага доктара, але аднекуль мой нос вылоўлівае тонкі, амаль непрыкметны пах ванітаў, здаецца, ад яе ён ідзе, можа быць ад цішоткі, што на ёй апранутая, альбо ад валасоў, нейхайна сабраных у хвост.

– Сабака мой, хадзі сюды, – кажа яна мне, і адкідвае коўдру, пад якой толькі яе аголенае цела.

Цела, дзеля якога абсалютна не сорамна быць сабакам і можна нават трываць яе булімію, але аднойчы яна забываецца на тое, што я існую як персона, як асоба, якой таксама патрэбна ўвага. Яна мне кажа, каб я ёй не замінаў задавальняць сябе маім чэлесам.

– Слухай, памаўчы, а?! Я занятая і хачу кончыць, – кажа яна мне і гэтак засяроджана мастурбіруе маім пенісам.

Я ёй кажу, што так больш працягвацца не можа, адштурхоўваю яе ўбок. Яна пачынае плакаць і скардзіцца на тое, што я яе ўдарыў, але я не хацеў яе біць. Дакладней, я вельмі моцна хацеў яе адлупцаваць, суку гэтую, але не стаў. Яна пачынае на мяне кідацца з кулакамі – гэта яе лепшая рэакцыя на што заўгодна: кніжныя спрэчкі, абмеркаванне, што піць увечары, альбо сексуальныя гульні. Я спачатку адбіваюся, але потым скручваю ёй рукі, саджуся на яе зверху, яна лямантуе і можа толькі галавою круціць ды шыпець, як змяя. І тут мяне накрывае, я ператвараюся ў сапраўднага сабаку, я трымаю яе вельмі моцна, яна перастае адбівацца, і я ўзбуджаюся. Бескантрольна, навобмацак я пранікаю ў яе, і мы займаемся жорсткім сексам, неверагодны запал, я адчуваю, што магу проста тут і цяпер памерці, і мне не будзе шкада.

І гэта быў наш апошні секс, бо нараніцу я сышоў. З’ехаў на нявызначаны час. Дакладней, я паехаў да свайго сябра, каб перачакаць гэтую сварку, гэты слоўны шторм. Я вырашыў з’ехаць туды, адкуль яна мяне не зможа дастаць. Я сказаў ёй, што яна мне не патрэбна, што я вельмі стаміўся слухаць па вечарах, як яна ванітуе ў прыбіральні, і што мне самому хочацца насіць свае майткі, і што калі ёй так трэба канчаць, няхай набудзе сабе дзілда і не выкарыстоўвае для гэтага мой чэлес.

Яна мне крычала, што мы ж так класна ноччу патрахаліся, што гэты секс можа ўсё на свеце загладзіць,

што пасля такога можна прабачыць ёй усё на свеце, але я не мог прабачыць, бо яна трымала мяне тады літаральна за яйцы так моцна і безапеляцыйна, што я вырашыў больш ніколі не трапляць у такія кіпцюры.

Я сказаў, што яна можа жыць у гэтай здымнай кватэры колькі хоча, я заплаціў за гэты месяц, але яна не хацела мяне чуць, яна біла посуд, піла з бутэлькі недапітае ўвечары белае сухое віно і крычала, крычала... крычала, і голас яе быў моцна тады падобны да гітары гурта «The Stooges», здавалася, яшчэ на пару нот вышэй – і перада мною з’явіцца Ігі Поп, бо тое, як яна біла посуд і піла з бутэлькі, вельмі мне нагадвала танцавальныя рухі Ігі падчас канцэрта.

Я сеў у машыну, завёў яе і ўключыў песню «I wanna be your dog».

Мне падабалася з ёй гутарыць, спрачацца, і мне падабалася быць сабакам у ложку. Мне шмат што падабалася, але я вельмі моцна хацеў змыць з сябе яе пах, пах ванітаў, духоў Ісэй Міякі і віна, і нарэшце даць адпачыць свайму целу і галаве.

# ДЗЯДЗЬКА НАГАН

***1***

Гісторыя здзяйсняецца не толькі побач з намі, часам мы граем галоўную ролю. Узяць майго дзядзьку, з майго дзяцінства – неверагодны чалавек, таленавіты ў процьме галінаў: малюе, робіць тату, займаецца разьбярствам, праграміст (робіць сайты), пісьменнік, кансультант па любых пытаннях. Ён старэйшы за мяне на пяць год, і ў яго ёсць персанальны д’ябал, які штурхае яго ў самае пекла – ён сядзеў у турме восем разоў і трапляў у наркатычную пастку ці не кожны новы год.

Калі мне было шэсць, дзядзька Наган атрымаў першы тэрмін у калоніі для падлеткаў, потым ён з пераменным поспехам то выходзіў, то ізноў трапляў за краты, «злодзей у законе», аўтарытэт з дзяцінства, «макрухаю» ніколі не займаўся, толькі крадзяжы і развод... На чацвёртай «ходцы» ён быў ужо «сматрашчым» і кіраваў. У яго былі свае кухары, ахова, шасцёркі, пеўні і паханы, мабільны, тэлевізар, інтэрнэт... Ён не быў моцным і здаровым, ён, малады чалавек невысокага росту, худы, з дзевяццю класамі вячэрняй школы, быў галоўным па любых пытаннях: кагосьці пракансультаваць па турэмным законе, кагосьці пакараць, камусьці вярнуць адабранае, падзяліць «абшчак» і г. д.

Мы з ім добра сябравалі, ён высылаў поштаю мне фотаздымкі, дзе ён у сваёй камеры ў атачэнні бамбізаў, і подпіс на фотцы – «Мои кореши».

Калі дзядзька быў на волі, ён вучыў мяне адмыкаць замкі другой гітарнай струной, прыносіў падарункі з шапікаў: магічны куфэрачак «Мілкі Вэй», адразу тры пакункі па сто, цэлыя скрынкі жуек.

Мой дзядзька паспеў атрымаць некалькі адукацый у турме, двойчы сам сябе абараняў у судзе, а на апошнім тэрміне нават трапіў пад амністыю, але ў яго былі няскончаныя справы на зоне, таму ён, каб застацца ў турме яшчэ на некалькі год і замацаваць сваё становішча, парэзаў заточкай галоўнага турэмнага наглядчыка... І выйшаў не праз два гады, а праз шэсць. Уладкаваўся на завод «Атлант» і, пакуль быў пад двухгадовым наглядам, ажаніўся, зрабіў двух сыноў і хрысціянскі сайт, дзе пісаў пра тое, як варта жыць з верай і Богам, даваў кансультацыі і парады, пісаў артыкулы пра Хрыста і найсапраўднейшыя першааснoвы Жыцця.

Зарабіў грошы на новы «Фальксваген», па кнігах вывучыў праграмаванне і адкрыў сваю фірму.

***2***

Дзядзька Наган заўжды быў верным жанчынам, якіх кахаў. А кахаў ён толькі дзвюх: Вольгу і Алену.

З Вольгай ён перажыў самыя складаныя жыццёвыя падзенні і ўзлёты, калі за суткі магло быць усё – каханне, рамантыка, міліцыя, наркотыкі, сваркі і зноў каханне. З Вольгай дзядзьку жыццё ўрэшце развяло далёка адно ад аднаго – яна пайшла вучыцца далей, атрымліваць вышэйшую адукацыю, а ён – ізноў у турму.

Вольга нарадзіла прыўкраснага сына ад юрыста Паўла, які доўгі час быў суседам па лесвічнай пляцоўцы, і тады дзядзька зусім разарваў з ёй сувязь.

З Аленай дзядзька Наган пазнаёміўся вельмі традыцыйна для зэка: праз перапіску. Алена сама пачала слаць яму доўгія лісты, аздобленыя марамі старшакласніцы.

Дзядзька тры гады з ёй вёў перапіску, пакуль ёй не споўнілася дваццаць год і яна не вырашыла наведаць яго ў далёкай турме.

Алена прыехала і пасля сустрэчы толькі яшчэ больш упэўнілася, што кахае яго па-сапраўднаму і гатовая чакаць яго, колькі б ні спатрэбілася часу.

Алене ўсе казалі, што яна дурніца – кахацца з зэкам. Бацькі Алены хутка пастарэлі з-за гэтага рамана, бацька пачаў піць, а маці – плакаць доўгімі вечарамі, бо не для гэтага гадавалі сваю дачку, каб тая вось з такім мужыком прапала.

Алена дачакалася дзядзьку Нагана, яны пачалі жыць разам. Яна нарадзіла яму сыноў, а потым з'явіліся на рынку спайсы і хімічнныя наркотыкі, якія вокамгненна спалілі мозг дзядзьку Нагану да такога стану, што ён сам на сябе забыўся.

Яму стала лепш роўна на такі тэрмін, каб ён паспеў перапісаць кватэру на дзяцей, прадаць машыну і сысці з гэтай рэальнасці ва ўласную на ўвесь астатні жыццёвы час.

Чалавек, моцны мужчына, які перажыў не адну бяду, у тым ліку і передозы ад гераіну, і вылечыў не адно захворванне, проста ўзяў і здаўся новым хімічным наркотыкам, якія сталіся для яго непрадказальна атрутнымі.

***3***

Некалькі карункавых фраз майго дзядзькі:

«Паслухай мяне, пляяш, калі хочаш запіліць дзіцёнка, трэба ябацца так, каб дым стаяў. Я вось з адным яйцом дваіх сыноў забацаў. Ведаў бы ты, колькі на гэта ў мяне пайшло моцы і часу!»

«Уяўляеш, як лёс выпаў?! Забіў я на сваю хрысціянскую секту, не быць мне пастырам... адкрыў фірму, і ведаеш,

дзе мой офіс? Праз сценку ад раённай апоркі! Мянты мяне пераследуюць!»

У дзядзькі Нагана на лабку ёсць тату: снікерс. Была такая рэклама раней: «Не тармазі – снікерсні», вось ён і набіў сабе назву шакаладкі над чэлесам.

Дзядзька Наган сам сабе б’е татуіроўкі, і ўся левая рука яго пакрыта скандынаўскімі рунамі… На пальцы набіта наколка-крыж, гэта кажа пра тое, што ён рос без бацькі і для яго ніколі не было аўтарытэтаў.

Дзядзька Наган – жывая энцыклапедыя, і нават калі Гугл не падкажа наконт дакладанага тэрміну, дзядзька заўжды ведае, што адказаць: усё нашмат прасцей у жыцці, чым табе падаецца, плямяш, ты малайца, што ніколі не носіш з сабою зброю, гэта ўратуе цябе ад турмы, але ты ж ведаеш, можна і алоўкам забіць, памятай пра гэта.

І я памятаю…

***4***

Зразумела, што дзядзьку завуць Наган не проста так, ён быў калісьці чорным капальнікам і аднойчы знайшоў вялікі скарб, быццам сам сатана яго схаваў: сямізарадны пісталет сістэмы Нагана, вайсковая каска, фляга, кулі і – увага! – кулямёт-маць-яго-Максім.

У воцате ўсё было адмыта і адчышчана, я не ведаю, якім магічным чынам дзядзька гэта зрабіў, але летам на балконе было адно задавальненне разглядаць усё гэта, такое прыгожае, бліскучае, быццам навюткае.

Кулямёт адразу знік. А вось пісталет дзядзька паўсюль насіў з сабою і часта яго мог дастаць, пакласці на стол – і тым забяспечыць непарушнасць прасторы вакол сябе.

Аднойчы ён прывёў нейкую шлёндру, а тая не дацяміла, што пісталет можа так прыгожа і карункава выглядаць, вырашыла, што гэта такая модная запальнічка ў дзядзькі. Не ведаю, можа быць, шлёндра была пад кайфам, чаго толькі па венах не цякло ў яе, але яна вырашыла падкурыць цыгарэту.

Дзядзька Наган толькі паспеў выплысьці са свайго кумару, крыкнуць «Да ну на...й!» і ўдарыць яе па руцэ.

Грымнуў стрэл, куля трапіла ў сцяну побач з начосам на галаве шлёндры, паўсюль дым, у вушах звон.

Я рагачу, бо мне смешна пасля ўсіх гэты цыгарэтнамарыхуанавых аблокаў, і павольна жую шкварку. Для мяне ўсё навокал адбываецца як у кіно. І толькі балючая і ўчэпістая рука маці мяне выштурхоўвае з цёплых абдымкаў дзядзькавай тусоўкі.

«Бах!» – і навокал дым і звон, а потым ізноў «бах!» – і я адчуваю, як ад мацерынай рукі ў мяне ў вачах скачуць зіхоткія зоркі, а ў роце пачынае збірацца крывавая юшка.

### *5*

Аднойчы дзядзька Наган «падняў» нейкі дзіўны шапік, бо прывёз адзежы і парфумы, быццам з нейкага сэканд-хэнда. Але ўсім сказаў, што ў яго цяпер афіцыйны бізнес, перакупіў барахло і будзе ім гандляваць на Жданах, сказаў так, каб супакоіць.

Потым праз дзень ён прывёз абсталяванне для ваннага пакоя: паліцы, краны, мыйку, нейкія кручкі для ручнікоў, і з болем і стогнамі яго сябры зацягнулі ў кватэру нейкую незвычайную ванную – джакузі.

А потым праз дзень дзядзька Наган разгрузіў машыну з гатовай, як цяпер кажуць, «кухняй пад ключ». І толькі

тады ўсе зразумелі, што ўжо амаль тыдзень дзядзька вывозіць з «паднятай хаты» ўсё, што можа, і хата гэтая вельмі, ну проста бессаромна багатая, і застануцца там пасля дзядзькі літаральна голыя сцены, без італьянскіх шпалераў дакладна – бо тыя можна адпарыць прасам,акуратна зняць і скатаць у рулоны, ізноў.

## ФЭТБОЙ СЛІМ

Для мяне музыка дыджэя Фэтбоя Сліма заўжды асацыявалася з яго непаўторным «Rockafeller Skank», песняй, якая была перанасычана markознымі скрэтчамі, звядзеннямі, антырытмамі і шматлікімі музычнымі злоўжываннямі дыджэйскіх круцёлак – у адным трэку, у адным месцы і ў адным музычным сэрцы. А тут раптам з'яўляецца яна і паказвае мне іншы бок Фэтбоя Сліма праз песню «Bird of Prey». Яна, такая сама па сабе – драпежная птушка, якая кіпцюрамі раздзірала мне скуру на спіне, паглыбляючы свае пазногці ў мяса, была ненасытнаю і адначасова па-вар'яцку ласкаваю і ціхаю.

Мы займаліся сексам толькі па-місіянерску, нічога іншага яна не хацела. Яна мне адразу, як мы ўпалі ўпершыню на ложак, так і сказала: «Я не бяру ў рот, на грудзі мне не канчаюць і ўнутр таксама». Я, вядома, прапусціў усе яе ўмовы міма вушэй, бо акурат у гэты момант паспеў цалкам яе распрануць.

Яна вельмі любіла слухаць трэк «Bird of Prey», але для мяне гэтая песня ператварлася з драпежнай птушкі ў птушку малітваў – «Bird of Pray», і я, як мог, патнеў над ёй, ашалелы ад такой пяшчоты і прыгажосці, і адначасова маліўся, каб яна кончыла першаю, бо гэта істотна паўплывае на мой аргазм таксама.

Вось яна стогне, наноў драпае мне спіну і то як котка мурлыкне, то наўпроста мне на вуха шэпча, што калі я дадумаюся кончыць у яе, то мой чэлес там і застанецца назаўжды.

Гэты кайф, асалода адрэналінавага гвалту і адначасовай пяшчоты рабілі з мяне яе адданага раба, а яна мне

звычайна любіла казаць, што з’явілася ў маім жыцці не проста так, што ў кожнага мужчыны, які сябе паважае, павінна здарыцца такое каханне, як яна – балючае і салодкае адначасова.

– Разумееш, пасля мяне ты будзеш разумець і цаніць жанчын. Ты будзеш іх правільна разумець. Разумееш?

– Не. Не разумею.

– Пасля мяне ўсе мае мужчыны жэняцца. Бо я – іх апошняе кола Сансары, я для іх самы моцны штуршок да вялікага Кахання.

– Ага. Цяпер напэўна разумею.

– Ды нічога ты не разумееш. Ладна. Набяры вады два кубкі і пастаў іх пад ложак, і давай да мяне пад коўдру, я нагрэла нам месцы.

У яе быў доўгі шнар на лабку, я не ведаў, адкуль ён і чаму такі доўгі. Я разумеў, што гэта была сур’ёзная аперацыя, хутчэй за ўсё звязаная з жаночымі органамі, але я не задаваў пытанняў. Мне падабалася пра яе нічога не ведаць, а ёй падабалася, калі я гладзіў яе шнар. Яна прасіла гладзіць яго пяшчотна і доўга, і з маслам. Пасля чаго засынала.

Адзін мой сябра сказаў мне, што трэба аднойчы кончыць у яе і паглядзець на рэакцыю: калі яна мяне кахае, то прабачыць, а там мы разам разбяромся, што рабіць, калі нават яна заляціць.

Я аднойчы перапіў віна і пасля доўгага, маруднага і па сутнасці бязглуздага сексу я кончыў у яе і рыхтаваўся альбо адбівацца ад злой вядзьмаркі, альбо патанаць у самых найвышэйшых пачуццях, бо яна кончыць адразу за мной.

Яна заплакала і села на ложку, такая прыгожая, агаленая, расчырванелая, успатнелая, такая безабаронная.

Яна плакала доўга, балюча і няспынна…

– У мяне ніколі не будзе дзяцей. Чуеш, ты?! Дурань! Ты! Дурань! Дурань! Дурань! Дурань!

Дурань…

Так мы з ёй разышліся, я застаўся дурнем, а яна прыгожай, сумнай і такой драпежнай, без дзяцей, але з вераю ў найвышэйшую місію.

# ЯН І ЖАН

***Жан***

Малады чалавек, хлопец, юнак, спадар Жан, сядзіць у кавярні, назірае за тым, як пачынаецца раніца. Ён разважае пра тое, што калі раней пераводзілі зімовы час на гадзіну пазней, то раніцы былі светлымі, а цяпер наадварот – цемра пачынае раставаць толькі пасля дзевяці гадзін. Гэта вельмі прыкра, бо няма адчування раніцы і пачатку дня, а толькі непрыемны прысмак сну ў роце і слязлівыя вочы прымушаюць вярнуцца ў ложак, быццам яшчэ толькі вечар.

Новы дзень пачынаць складана, цяжка, да ўсяго гэта нагадвае яму пра тое, што такім чынам набліжаецца старасць, кожнай новай раніцай чалавек робіць чарговы крок да свайго канца.

З узростам становіцца вельмі лёгка быць незадаволеным усім на свеце: раніцай, надвор'ем, мінакамі, гэтай самай кавярняй, якая, на хвілінку, адзіная на ўвесь раён пачынае працу з сямі, і заспаная барыста з пакамечанай, але ўсё-ткі шчырай усмешкай гатуе каву, прапануючы піражнае «картошка», якое засталося з мінулага дня і цяпер на яго зніжка пяцьдзясят адсоткаў.

Жан разумее сваю незадаволенасць, па звычцы пачынае глыбока дыхаць і лічыць пра сябе, каб не злавацца проста так, але маладая дзяўчына яго кранае сваёй увагай і заклапочанасцю:

– Вам піражнае пакласці? Яно амаль за так будзе.

«Трэба навучыцца быць удзячным, – кажа сам сабе мужчына. – Калі пачынаеш мала спаць, то варта быць хаця б у добрым настроі».

– Калі ласка, піржнае і каву, вялікую, з какосавым сіропам. Дзякуй.

Вось тут і цяпер адбываецца жыццё, і пра гэта Жану трэба памятаць, бо, як казаў Ленан, пакуль ты плануеш жыць, яно, жыццё, адбываецца з табою тут і цяпер.

Добра спадар Ленан сказаў, трапна. І Жан разумее, што гэтая барыста і адзін з бітлоў робяць яго раніцу светлай нягледзячы на тое, што на вуліцы страшэнная цемрадзь, бо краіна вырашыла не пераводзіць гадзіннікі на гадзіну наперад, як гэта заўжды было, каб людзі жылі не ў рытме Еўропы, але адчувалі сябе прыгнечанымі, заблытанымі ў біярытмах, звыкла-зразумелых для Расіі.

Жан сядзіць у кавярні, сэрцам ён яшчэ з каханай у ложку, душою – у Шатландыі, а галавою захрас у зімовым Мінску, такім родным і такім цёмным.

***Ян***

Спадар Ян прачнуўся позна, ён праспаў, так атрымалася. Званілі з працы шмат разоў, але ён выключыў гук.

Проста так атрымалася – залішне многа белага сухога, і добра б сыр быў альбо кавалак хлеба, хоць высахлага. Лядоўня зеўрала пустэчай, толькі на паліцы для бутэлек месціліся чатыры пляшкі віна, прывезенага з апошняй камандзіроўкі ў Італію.

З аднаго боку, Ян мусіць радавацца, што вось ён, такі малады і прыгожы, прачынаецца самотным, як і хацеў, але з іншага боку, выпітыя чатыры бутэлькі нагадваюць яму пра тое, што ён самотнік, які бухаў на адзіноце ў гэтым мэбляваным пакоі, і гэта аказалася зусім не так радасна, як ён разлічваў.

Ян злосны, ён прачнуўся апухлым і з моцным галаўным болем. Ён вінаваціць ва ўсім цяпер толькі сваю маці, якая

рана яго нарадзіла і так і не атрымала адукацыі, не пажыла, не дакахала, не ўбачыла свет, толькі гадавала дзяцей, а пасля трыццаці рыхтавалася да пенсіі, смерці, канчатку жыцця. Ян адчувае сябе вінаватым і не ведае, што рабіць, бо маці ўжо няма, але ён ёсць, хоць і жыве няўклюдам.

Хтосьці сказаў, што некаторыя грахі бацькоў дзеці носяць з сабою па жыцці. Але ніхто не казаў, што пачуццё віны часам бывае горшым і больш цяжкім і насіць яго нашмат складаней.

Маці ніколі не вінаваціла Яна, але магла вельмі проста і спакойна, седзячы на кухні, прамовіць у прастору: а было б файна зараз аказацца маладой, вольнай і проста хадзіць з Гэнікам за ручку, хавацца ў доўгіх змрочных школьных калідорах, каб пацалавацца, але тут з'явіўся гэты «ваш» бацька, спадарства, і ўсё пайшло не так, як хацелася… з'явіўся ты, перапынак у вучобе, а потым проста не было сіл вярнуцца.

«Дзеці заўжды няўтульныя, хто б што ні казаў!» – гаворыць маці.

Ян добра памятае пра гэта, таму ён ніколі не будзе заводзіць дзяцей, тым больш у наш час, калі кліматычныя катастрофы і хваробы без супынку гвалтуюць гэты свет і чалавецтва. А яшчэ калі дадаць да ўсяго перманентнае жаданне з'ехаць з кватэры, у якой жывуць пятнаццаць чалавек, забіць дзядзьку, каб ён ніколі не наважыўся нават пакрыўдзіць маці… забіць бацьку, каб ён больш не бухаў і не крыўдзіў маці… забіць бабку, каб яна больш не спрабавала выганяць ды высяляць з кватэры ўсіх нас і больш не крыўдзіла маці, забіць усіх гэтых драпежных братоў і сясцёр па двары, па жыцці…

Ян сядзеў на зэдліку на кухні, піў распушчаны ў астылым кіпні аспірын, і яго неверагодна калаціла ад жудаснага

дня, болю ў патыліцы і ад таго, што ўчора было зашмат віна і зашмат віны за ўсё на свеце. Наперадзе дыета, эканомія і скруха, бо працы ізноў няма.

***Жан***

Жан адпівае гарачай кавы, апякае язык, дзьме на яго, адкрыўшы рот, кляне каву, але пачынае ўсміхацца, бо кава відавочна тут ні пры чым.

Сапраўды, жыць з удзячнасцю вельмі складана. Лёгка можна праклінаць і не любіць, гэта такія базавыя пачуцці, якія з'яўляюцца на свет разам з плачам нованароджанага, але тое, што выклікае ўсмешку, цёплыя пачуцці, патрабуе высілкаў і працы мозга і сэрца, – гэта нашмат складаней, і таму ўсмешка патрабуе быць удзячным і шчаслівым.

– Добра, Кава. Ты апякла мяне, і я табе калі-небудзь адпомшчу, але не сёння. Не сёння, бо дзень пачынаецца светлы, лагодны, і я проста не маю часу на тое, каб з табою сварыцца, – Жан прамовіў гэта з усмешкай і нават паспрабаваў позіркам перасекчыся з вачыма дзяўчыны за кававым апаратам, але атрымалася ўсё неяк няёмка, быццам стары дзед спрабуе жартаваць і заляцаецца да цнатлівіцы. «Вось жа… Дзе мае пятнаццаць, парваў бы зараз стадыён!»

Спачатку трэба навучыцца быць удзячным сваёй жанчыне, бо яна рызыкуе здароўем і нават жыццём, калі пагаджаецца нарадзіць табе дзіця.

Дзеці – гэта ўжо адразу ўдзячнасць Сусвету.

З усяго гэтага вынікае, што ты, Жан, мусіш быць удзячны Жыццю ўжо за тое, што існуеш тут і цяпер і ў цябе ёсць неверагодны шанец назіраць, як растуць твае дзеці, і ёсць яшчэ самы прыўкрасны шанец у жыцці –

кахаць сваю жанчыну. Бо кахаць і любіць ніколі не позна і нават карысна, асабліва тут і цяпер, не адкладаючы на потым.

Жан адчувае шчырую ўдзячнасць сваёй цяжарнай жанчыне і за тое, што была з ім побач нават у самыя складаныя часы, мірылася з ягонай інфантыльнасцю.

Аддзячыць і адпусціць, сказаць «Дзякуй!» за радасць кахання, пацалункаў, доўгіх і кароткіх, за шчасце быць.

***Ян***

Хлопец вырашыў апрануцца і прагуляцца па горадзе, трэба ачуньваць, прыводзіць фізічны стан у норму. А ў часе шпацыру можна будзе ў якой кавярні выпіць віна…

Ян апранаецца і знаходзіць сярод адзення свае старыя думкі, ад якіх становіцца добра і лёгка далей глядзець у жыццё. Ён адчувае нейкую спустошанасць, што ніколі не дапамагаў маці. Дакладней, ён дапамагаў ёй грашыма, але каб прыбраца на кухні альбо схадзіць для яе ў краму – ён гэтага не рабіў ніколі, бо маці сама ўсё гэта рабіла і ніколі не наракала на тое, але аднойчы, толькі аднойчы пажалілася яму, што ёй не хапае дапамогі.

Ян многае не паспеў зрабіць для мамы, але ён вырашыў, што кампенсуе тое сваёй жанчыне… так, сапраўды, гэта будзе сімвалічна і адначасова класічна, паводле Фройда!

Ёсць моманты, якія не даюць хлопцу супакою: адносіны, якія ён так лёгка, хутка і проста руйнаваў. Крыўдна за пацалункі, здзейсненыя толькі на палову, і ўвогуле шмат якіх спраў ён не давёў да канца.

Маці шмат пакутвала з-за ягоных адносін, сама шмат пра што даведвалася да таго, як ён ёй распавядаў…

Малады чалавек выйшаў з кватэры і, апынуўшыся на вуліцы, адзначыў для сябе, якое файнае надвор’е, і рушыў да найбліжэйшай кавярні.

***Жан***

У абед Жан быў ужо дома, еў ён, як звычайна, як і сексам займаўся, – з нястрымным апетытам і смакам. Яго жанчына глядзела на яго, і ёй было цёпла і хораша ад таго, як гэты варвар абедае, як распраўляецца з мясам, аблізваючы пальцы.

– Я табе шмат разоў казала, што ты ясі, быццам дзікун, нібыта цябе не кармілі гадамі і вось далі, нарэшце, магчымасць ад’есціся.

– Кожны раз падчас абеду ў мяне з’яўляецца адчуванне, што я смяротна галодны і калі тэрмінова не паем, неадкладна памру!

***Ян***

Хлопец знайшоў кавярню толькі пасля гадзіны блукання сярод жылых дамоў і розных іншых будынін, думкі яго зацягнулі ў далёкі шпацыр, яму гэта падабалася, але адначасова смага гнала на пошукі ўтульнай адчыненай кавярні, дзе наліваюць алкаголь.

– Ёсць толькі халоднае італьянскае з усяго меню, астатняе віно не ў лядоўні, – прамовіў бармэн, пазіраючы на наведвальніка абсалютна абыякава, калі не сказаць, што крыху грэбліва.

– Кепска і шкада, але вы тады дайце мне бутэльку халоднага белага, а вось тую бутэльку, што я адразу выбраў, пастаўце, калі ласка, у лядоўню.

***Жан***

Пасля абеду Жан моцна захацеў адпачыць.

– Хіба ты сёння ўжо адпрацаваў?

– Так, дзетка, і я збіраюся заняцца з табой салодкім каханнем, а потым легчы паспаць, хоць бы гадзінку.

– Слухай, я ўжо на трэцім месяцы, ты акуратней са сваімі жаданнямі.

– Я буду вельмі акуратны і ласкавы.

***Ян***

– Нажлукціўся…

– Што?

– Я кажу, што ты нажлукціўся.

– Паехалі да мяне!

– Паехалі.

***Жан***

Спачатку ён апынуўся ў сваёй старой кватэры, у кватэры ягонага страшнага дзяцінства. Калі яму страшна альбо калі мае адбыцца штосьці жудаснае, вусцішнае, невыноснае, яму заўжды сніцца старая кватэра. Але гэтым разам у кватэры былі дзеці, хлопчыкі і дзяўчынкі, і ў кватэры было зусім інакш, чым раней. Жан дакладна ведаў, што ўсе гэтыя дзеці ягоныя. І адчуваў такое шчырае задавальненне, такую радасць, што пачаў смяяцца скрозь сон.

А потым ён прачнуўся і адразу ўзгадаў, што сёння ўвечары ён запрошаны на вечарынку. Жан разбудзіў сваю жанчыну, якая заснула разам з ім пасля жарсцяў, і яны хутка пачалі збірацца, каб не спазніцца.

***Ян***

Малады чалаек дапоўз да дому з нейкай новай знаёмай і заснуў у яе на каленях, распавёўшы палову свайго жыцця… Спачатку Ян збіраўся, як самец, сарваць адзежу з дзяўчыны, але яго хапіла, толькі каб распрануцца да майткоў і пакласці галаву ёй на калені, пакуль яна сядзела на канапе…

Яну ізноў прыснілася яго старая кватэра, і гэта мусіў быць кепскі сон, бо калі яна яму сніцца, то абавязкова з жыхарамі, якія там жылі, з усімі гэтымі бабкамі, бацькамі, маткамі, цёткамі і сынамі… але гэтым разам ён змог самастойна адчыніць дзверы гэтай страшнай кватэры і выйсці вонкі, усё гэта адбылося, калі яго новая жанчына пачала гладзіць яго па галаве, пакуль ён соп, у знямозе пасля злоўжывання віном.

***Жан***

– Не ведаю чаму, але, пакуль мы так доўга стаялі ў заторы на праспекце, я ўзгадаў усіх сваіх жанчын, – задуменна прамаўляе Жан сваёй жанчыне ў таксоўцы, па дарозе на вечарынку з нагоды  дня нараджэння іх агульнага сябра, фатографа Мікіты, – і зразумеў, што на працягу доўгага часу жыў не сваім жыццём, многае замоўчваў, я нібыта гадаваў сабе дачок, замест таго каб будаваць сапраўдныя адносіны. Хіба такое бывае?

– Думаю, бывае і такое.

– Можа, варта прааналізаваць ды перагледзець найбольш вартыя моманты, нюансы і зрабіць правільныя высновы?

– А якія высновы для цябе правільныя? – спыталася жанчына і прыбрала з яго далоні сваю руку. Упершыню з пачатку іх гутаркі абодвум зрабілася неяк няёмка.

– Дзе знаходзіцца тое самае каханне ўсяго жыцця? Ці гэта сапраўды, як у Ясеніна: трэба хоць аднойчы закахацца, каб ведаць, які гэта боль... – імпэтна азваўся кіроўца таксоўкі, бесцырымонна абрэзаўшы дыялог, і шчыра заўсміхаўся.

***Ян***

Новая знаёмая Яна, пакуль ён спаў, прыбралася на кухні і памыла посуд, а калі хлопец прачнуўся, яны пачалі спешна збірацца, бо Ян узгадаў, што сёння едзе на вечарынку да сябра-фатографа і нават недзе адклаў грошы, каб падарыць іх Мікіту.

Пакуль яны збіраліся і Ян сутаргава выклікаў таксоўку, новая знаёмая паспела закінуць брудную адзежу ў пральную машыну...

Толькі ў салоне аўтамабіля Ян вырашыў пагутарыць з жанчынай, пачаўшы без марных уводзінаў:

– Напэўна, шчасце кахання – гэта рэч вельмі асабістая, нетрывалая і настолькі пераменная, што яе працей загнаць у межы формулы і даказаць раз і назаўжды, каб потым не вяртацца ніколі да гэтых пытанняў, а проста карыстацца формулай... Так было б нашмат лягчэй, працей і нават вальней жыць. Бо адносіны з вялікай колькасцю жанчын прыводзяць да разбэшчанасці... не, хутчэй да пераборлівасці, да жыццёвых прэтэнзій. Калі табе хочацца не проста ўсё новых і новых жанчын, але калі ты пачынаеш ацэньваць іх целы, пазяхаючы, разглядаць, як хірург: у адной – ногі, як у трэцяй; у гэтай, пятай – больш пругкія грудзі, зусім як у першай... а гэтай дастаткова толькі акуляры начапіць на нос... – Ян размаўляе напаўшэптам, так, каб яго чула толькі яна, і не чакае, што яна адкажа, бо цягам усяго дня

яна амаль не падтрымлівае гутарку з ім, толькі глядзіць – то на яго, то перад сабою, у прастору, вельмі загадкава і неяк самотна. – З аднаго боку, я знаходжуся ў перманентным пошуку жадання, разглядаю жанчын як магчымасць сексу, з другога боку, я шукаю такіх анёлачкаў, дзяўчынак, якія б цалкам мяне супакоілі і не проста сэнс надалі майму жыццю, але агарнулі б мяне дабрынёй, увагай і ўтульнасцю, і адначасова я разумею, што калі ў гэтых стасунках не будзе мяне сапраўднага – я выбухну, я не змагу жыць, хоць у мяне гэта і атрымалівалася шмат год.

– Я думаю, ты перажываеш крызіс стасункаў, адначасова ў цябе ўзроставы крызіс, я магу даць табе каханне, але сваю галаву не дам, – кажа жанчына. – Мне непрыемная гэтая гутарка, – ставіць кропку яна.

*Вісбю – Мінск*
*2017–2020*

